PL ISSN 0546-1960
NR INDEKSU 366714

# Ніва

ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ

№ 18 (2138) Год XLII Беласток 4 мая 1997 г. Цана 1 зл.

# Крыжы ў падляшскім краявідзе

**Краявід кшталтуюць геаграфічна-прыродныя фактары і дзейнасць чалавека. Пакуль людская актыўнасць абмяжоўвалася да задавальнення натуральных патрэб, побач прыроднага паўставала гарманійнае культурнае асяроддзе, ствараемае чалавекам. Прыкладам такой гармоніі з'яўляецца краявід праваслаўных вёсак Падляшша. Рэшткі традыцыйнай народнай культуры захаваліся да нашых дзён у планіроўцы сядзіб, у выглядзе збудаванняў, у малых архітэктурных формах — перш за ўсё ў прыдарожных крыжах і каплічках.**


*Палявы крыж пры дарозе з Орлі ў Крываятычы.*

Прыдарожны крыж на канцы вёскі меў ахоўваць жыхароў ад хвароб, раптоўнай смерці, пажару, паводкі і ўсялякіх няшчасцяў, а таксама ўказваць правільны шлях і ўмацоўваць веру. Крыжы ставіліся на граніцах палёў, вёсак, прыходаў, у месцах цудоўных з'яўленняў. У Арлянскай гміне прыдарожных крыжоў — вясковых і палявых — налічыў я больш за сто ды ўсіх іх сфатаграфаваў і апісаў. Ставілі крыжы і ў знак удзячнасці за выслуханне малітваў і выратаванне ад хвароб ці няшчасцяў. Прыкладам гэтаму можа паслужыць каменны крыж на канцы Градалёў, пастаўлены падчас II сусветнай вайны, калі ў вёсцы вельмі часта ўміралі малыя дзеці.

Крыжы і каплічкі неаднойчы былі ачагамі рэлігійнага жыцця вёскі. Напрыклад, у Орлі на Вадохрышча хрэсны ход спыняўся ля крыжа над рэчкай Арлянкай, дзе свяцілі ваду. Здавён-даўна стаяў там драўляны крыж, а і сама рака цякла другім рэчышчам. У 1955 г. крыху ў іншым месцы салідны бетонны крыж паставіў жыхар Орлі Піліп Адзіевіч, пазнейшы шматгадовы царкоўны староста. Гэта ён на месца ўрачыстасці прыносіў стол, на якім клалі Евангелле, хлеб і соль. У часе царкоўных спеваў выпускаліся тады тры галубы. У 70-х гадах, калі Орля атрымала водаправод, ваду сталі свяціць пры кране ля царквы. Забыты людзьмі бетонны крыж над Арлянкай ляжыць цяпер разваленым ў трох кавалках.

Іншы прыклад — гэта абрад свячэння палёў перад Узнясеннем. Хрэсны ход ішоў тады па дарогах, якія аддзялялі палі адной вёскі ад другой, а ўдзельнікі шэсця маліліся пры дарожных крыжах, пры палетках паасобных гаспадароў. Потым уваходзілі ў вёску і там кожны гаспадар ставіў у браме стол, на які клаў бохан хлеба. Бацюшка маліўся пры стале, а пасля свяціў сядзібу. Гэты стары цудоўны звычай ставіць стол у браме захаваўся да нашых дзён у Парцаве, што каля Бельска-Падляшскага.


*Забыты крыж над Арлянкай.*


*Васьмімятровы драўляны крыж з пачатку XIX стагоддзя каля Пашкоўшчыны. Побач цэментавы крыж з 1950 г.*

Канец XIX і пачатак XX стагоддзя прынеслі вялікія драўляныя крыжы з „пэрэхрысцем" і з завершанымі „булаўкамі" канцамі. Рабілі крыжы з сасны, дубу. Не прымянялася для гэтага асіна, бо паводле падання на асіне павесіўся Іуда. Сёння замянілі іх крыжы з бетону і тэрацца (lastrico). Памяняўся таксама спосаб іх упрыгожвання. Не відаць ужо гірляндаў кветак і вянкоў з галінак, вышываных ручнікоў і іконак, а толькі штучныя кветкі і стужкі. Цешыць, аднак, што традыцыя ўпрыгожвання прыдарожных крыжоў яшчэ жыве ў народзе.

Кожны крыж — жывы доказ людскога лёсу, знак смутку і адначасна надзеі, вяшчун радасці, напамін нашчадкам. Мы павінны памятаць, што крыж — сведка тых, якія ўжо адышлі і якія любілі свой народ, праваслаўную рэлігію, родную мову. Трэба тады імкнуцца, каб прыдарожныя крыжы як найдаўжэй захаваліся ў праваслаўным краявідзе Падляшша.

**Міхал Мінцэвіч**
*Фота аўтара*

# Абеліскі ў Замбраве

**Аляксандр Вярбіцкі**

*Мне кажется порою, что солдаты,*
*С военных не вернувшиеся полей,*
*Не в землю нашу полегли когда-то,*
*А превратились в белых журавлей.*

Так быў спяваў Марк Бернес. Толькі ў песнях выяўлялі савецкія грамадзяне боль па мільёнах сваіх сыноў, што бясследна загінулі на пачатку II сусветнай вайны, стаўшы ахвярамі крывадушнага пактавання двух крывавых дыктатараў. У савецкім друку было толькі пра *победу*, а жахлівая праўда пра ахвяры свайго *вождя* прамоўчвалася. Цяпер знята большасць загадзей, якія абмяжоўвалі даследчыкаў таго перыяду, у тым і эпізодаў мясцовага мінулага.

Такім вось эпізодам быў лёс навучэнцаў летняй школы пры савецкай 86-й стралковай дывізіі. Школа гэтая была заснавана ў 1940 годзе непадалёк Цеханоўца і прызвана ў яе каля тысячы 18-20-гадовых юнакоў. Калі 22 чэрвеня 1941 года пачалася нямецка-савецкая вайна, хлопцы рушылі на дапамогу сваёй пагранзаставе і каля вёскі Багуты ўступілі ў бой, маючы на ўзбраенні толькі некалькі ўстарэлых вінтовак-трылінеек (лінейка — 0.1 цалі, тры лінейкі — 7.62 мм) канструкцыі Сяргея Мосіна, узора 1891 года. Няроўнае змаганне закончылася гібеллю амаль усіх савецкіх хлопцаў; сумелі яны аднак вывесці з бою больш за пяцьдзесят немцаў. Савецкіх салдатаў чужыя людзі пахавалі там, дзе яны развіталіся са сваім кароткім яшчэ жыццём.

У 1991 годзе зацікавіўся імі Раман Свяржэўскі з Багутаў, дырэктар тамашняга Гміннага асяродка культуры. Распытаў ён мясцовых людзей пра ўсё ім на той конт вядомае, устанавіў месцы пахавання байцоў і дабіўся перапахавання іх астанкаў на Вайсковыя могілкі ў Замбраве, дзе пакояцца 12 тысяч савецкіх ваеннапалонных, захопленых на пачатку вайны *Kinder des Todes*, памерлых ад голаду, холаду і здзекаў, і звыш пяцідзесяці воінаў, аддаўшых жыццё ў ходзе вызвольных баёў у 1944 годзе. Астанкі кандыдатаў у лётчыкі пахавана ў двух месцах, насыпаючы на іх невялікія бугаркі. І больш нічога.

Генеральны консул Рэспублікі Беларусь у Беластоку, Міхаіл Слямнёў, якога браты змагаліся ў Вялікай Айчыннай вайне і адзін з іх памёр ад ран, на тых месцах вечная пакою сваіх суайчыннікаў рашыў узвесці помнікі. Правёў ён размовы з уладамі Ломжынскага ваяводства і самога горада Замбрава. Далі яны на гэта згоду, з той засцярогай, каб не надта вялікія. Выкананнем іх заняўся гродзенскі завод

[працяг ☞ 4]

# Мы прачыталі

*Przyśpieszenie integracji Mińska i Moskwy spowoduje przyśpieszenie kursu białoruskiej identyfikacji narodowej. Wcale nie jest pewne, że Białorusini podczas referendum, o ile nie zostanie ono sfałszowane, skłonni byliby wyzbyć się niepodległości. Jest to naród realistów, zdających sobie sprawę z pełnego uzależnienia gospodarki białoruskiej od rosyjskich paliw. Nie oznacza to przecież chęci wyzbycia się własnego państwa. Działania zjednoczeniowe Łukaszenki spowodowały, że to nie Front Narodowy czy liderzy rozwiązanego parlamentu stanowią teraz podstawową siłę opozycyjną, lecz młodzież miejska, studenci, młoda inteligencja. To oni właśnie wychodzą na ulice Mińska w parotysięcznych manifestacjach, ryzykując pobicie, więzienie, grzywny, czy usunięcie z uczelni. Podejmując to ryzyko, są przekonani, że ich kraj jest rządzony przez autokratyczny reżim spychający Białoruś na peryferia cywilizacyjne współczesnego świata i że dzieje się tak dlatego, że Białoruś leży w rosyjskiej strefie „żywotnych interesów”. W świadomości inteligencji, Rosja jest barierą odgradzającą ojczyznę od normalnego świata, toteż hasło manifestantów „My chcemy do Europy” ma wagę manifestu, przesłania do całego młodego pokolenia Białorusinów.*

*Gazeta Wyborcza, nr 84*

* * *

*— Сенька, ці лёгка табе быць беларусам? — Не, не лёгка (...). Гэта ёсць так, што ўвесь час аддаеш сябе іншым, многія рэчы становяцца для цябе лішнімі, а іншыя справы — хаця важныя — таксама кідаеш, бо не хапае сіл і часу. Жывеш ідэямі і таму вымушаны мяняць суадносіны (...). Амаль кожны дзень нажываеш новых ворагаў. Бо калі сапраўды хочаш быць беларусам, трэба гэтага хацець і ад іншых, быць для іх прыкладам. Хаця тое робіш, чагосьці хочаш ад іншых, але ім найчасцей на гэта напляваць,* — падаў адказы на пытанні галоўнага рэдактара „Часопіса” Юры Хмялеўскага старшыня Зьвязу беларускай моладзі, клірык Праваслаўнага тэалагічнага інстытута ў Парыжы Юры Асеннік.

*Czasopis, nr 4*

Гэтае інтэрв'ю варта прачытаць поўнасцю. Суразмоўца рэдактара Хмялеўскага ўзбагачае беларускую палітычную думку на Беласточчыне, якую ўжо раней выказалі на старонках „Czasopisa” Сяргей Плева і Янка Сычэўскі. Кандыдат на святара дае там знакаміты прыклад „чыстасардэчнай хрысціянскай нянавісці” да сваіх „ворагаў”. Амаль дасканалая крывадушнасць.

* * *

*Mam telewizor Thompsona, który daje cudowny obraz na 24 kanałach — i to jest straszne! To znaczy jakość obrazu jest świetna, ale walor wszystkich transmisji jest przerażający. Istnieje jakiś specjalny typ konspiracji, który ma na celu totalną kretynizację ludzkości. Idioci robią widowiska dla idiotów, kretyni — dla kretynów, i tak to niestety wygląda,* — піша Станіслаў Тым.

*Tygodnik Powszechny, nr 15*

* * *

*Wiem, że niektórzy źle trawią Radio Maryja. Nie moja wina, że ktoś je polski chleb i jest polsko-język czny. Ale mam dla takich wyjście z sytuacji, niech nie błądzą, do Łukaszenki jest niedaleko. Bo my we własnym kraju Polacy z krwi i kości wiemy co mamy robić,* — піша чытачка ў рэдакцыю штодзёнкі

*Kurier Poranny, nr 85*

* * *

*Białystok dał przykład całej Polsce, jak należy bronić wartości. Modlimy się więc, by Białystok pozostał miastem polskim, biało-czerwonym, by służył rodakom na Litwie i Białorusi,* — сказаў генерал-епіскап Лешэк Славой Глудзь.

*Gazeta w Białymstoku, nr 87*

* * *

*W Afganistanie poległo 13 833 żołnierzy radzieckich, ok. 15 tys. zostało inwalidami. Armia Radziecka pozostawiła tam 10 milionów min. Życie straciło 2 miliony Afgańczyków, z tego 200 tysięcy od wybuchów min. Co siódmy Afgańczyk jest inwalidą.*

*Magazyn — Gazeta, nr 15*

* * *

*Prezydent Łukaszenka wydanym przez siebie dekretem ustanowił w Republice Białoruś nowe święto: Dzień Pracowników Organów Bezpieczeństwa Państwowego. Będzie ono obchodzone corocznie 20 grudnia. Przemawiając w Klubie im. Feliksa Dzierżyńskiego na uroczystym posiedzeniu z okazji 79 rocznicy utworzenia Czeki, Łukaszenka oświadczył: „Mój los jako polityka jest ściśle związany z KGB”. Cała prezydencka kampania była prowadzona z pomocą oficerów KGB, najbliższe otoczenie Łukaszenki to także oficerowie KGB. W swoim wystąpieniu prezydent nazwał pracowników służb specjalnych „jądrem białoruskiego społeczeństwa” i podziękował za pomoc podczas referendum. Zważywszy, że białoruskie KGB jest pododdziałem Łubianki, Łukaszenko jest tylko sługą innych gospodarzy.*

*Szef mińskiego KGB Uładzimir Mackiewicz ogłosił rok 1997 rokiem odradzania się najlepszych tradycji zgodnie z dewizą: „Żyć i pracować tak, jak uczył Feliks Dzierżyński”. Mackiewicz zapomniał jedynie określić ilu „wrogów dyktatury proletariatu” powinien zniszczyć w tym roku białoruski czekista. Wiadomo, że z rozkazu Dzierżyńskiego zamordowano na Białorusi setki tysięcy ludzi, których jedyną winą było nieaprobowanie rewolucji bolszewickiej.*

*Wiadomości Białoruskie, nr 1(5)*

# З мінулага тыдня

**Польшча** імкнецца ў НАТО не для таго, каб быць супраць Расеі або адвярнуцца ад яе, — заявіў старшыня польска-расейскай міжпарламенцкай групы **Мечыслаў Чарняўскі** падчас сустрэчы ў Маскве з віцэ-спікерам Савета Федэрацыі і старшынёй Дзяржсавета Татарстана **Васілём Ліхачовым**. — Імкненне ўступіць у НАТО выклікана клопатам Польшчы аб сваёй бяспецы і тут Польшча не бачыць альтэрнатывы, бо не яна робіць геапалітыку, — заявіў расіянам парламентарый.

**Леанід Гарбенка** — губернатар Калінінградскай вобласці Расейскай Федэрацыі выявіў, што сам асабіста прапанаваў прэзідэнту Беларусі **Аляксандру Лукашэнку** ператварыць Калінінград у беларускі порт. Гарбенка ўспомніў пра гэта ў ходзе тэлеперадачы расейскага дзяржаўнага тэлеканала РТР, прысвечанай інтэграцыі Расеі і Беларусі, і сцвердзіў, што паабяцаў беларускаму прэзідэнту дапамагчы ў афармленні справы.

**Кансультацыі міністэрстваў замежных спраў Польшчы і Беларусі** закончыліся заявай аб стварэнні польскага інстытута і пашырэнні трансгранічнага супрацоўніцтва, між іншым у еўрарэгіёнах „Нёман” і „Буг”. Кансультацыі звычайна праводзяцца раз у год на ўзроўні дырэктараў і намеснікаў дырэктараў дэпартаментаў. Падчас Дзён беларускай культуры, якія сёлета адбудуцца ў Польшчы ў маі, праўдападобна будзе падпісана пагадненне аб стварэнні ў Менску Інстытута культуры РП (падобны беларускі інстытут паўстане ў Варшаве або Беластоку). Дэлегацыя РП звярнулася з просьбай да ўрада РБ аказаць тэхнічную і фінансавую дапамогу польскім грамадскім арганізацыям, перш за ўсё ў галіне школьніцтва.

**Унія працы** будзе падтрымоўваць беларускую апазіцыю ў яе дзеяннях наконт абароны дэмакартыі ў Беларусі. Прэс-сакратар УП **Томаш Налэнч** заявіў, што гэта не абазначае стварэння ў Польшчы цэнтра для барацьбы з уладамі Беларусі. — Унія працы, выказваючы салідарнасць з беларускай апазіцыяй, прагне сплаціць доўг за дапамогу, якую палякі атрымалі з Захаду ў 80-х гадах, — сказаў віцэ-старшыня Уніі **Войцех Баравік**, які ўдзельнічаў у кангрэсе Беларускай сацыял-дэмакратычнай грамады. Наладжванны Уніі працы акцыі будуць мець перш за ўсё інфармацыйны характар, але будзе таксама аказвацца і матэрыяльная дапамога, напрыклад, пры выдаванні часопісаў.

**Кафедра беларускай культуры** Філіяла Варшаўскага універсітэта ў Беластоку будзе адкрыта праўдападобна 1 верасня г.г., — заявіў прарэктар ФВУ праф. **Адам Ямроз**. — Будзе гэта міжгаліновая навукова-даследчыцкая ўстанова, а яе працаўнікі будуць вывучаць гісторыю, этнаграфію, сацыялогію. Стварэнне кафедры — крок на шляху да адкрыцця беларусазнаўчага аддзялення. Кафедру ўзначаліць праф. **Альжбета Смулкова** — навуковы супрацоўнік Варшаўскага універсітэта, экс-пасол Польшчы ў Беларусі.

**У Гарадку** амаль 600 вучняў мясцовай пачатковай школы супольна з настаўнікамі дэманстравалі супраць нарастаючай хвалі агрэсіі. Ініцыятарам маршу маўчання быў школьны самаўрад. Шэсце пад лозунгам „Стоп насіллю” прайшло з-пад школы пад будынак Управы гміны, дзе арганізатары акцыі ўручылі войту і каменданту паліцыі петыцыі. Моладзь прасіла паліцыю дзейнічаць больш рашуча, павялічыць колькасць патруляў удзень і ўночы, інфармаваць грамадства аб выніках расследаванняў і дабіцца выканання распараджэння аб забароне продажу папяросаў і алкаголю падлеткам.

# Весткі з Беларусі

**СССР не адродзіцца**

Міністр замежных справаў Беларусі Іван Антановіч адхіляе апасенні, якія выказваюцца на Захадзе наконт таго, што падпісаны 2 красавіка г.г. дагавор аб саюзе Беларусі і Расеі можа прывесці да адраджэння СССР. У інтэрв'ю японскай газеце „Іяміуры” ён заявіў аб немагчымасці стварэння адзінага ўрада, адзначыўшы, што такая ідэя наогул не падлягае абмеркаванню. Антановіч сказаў, што інтэграцыя будзе ажыццяўляцца па ўзору Еўрапейскага Саюза выключна ў эканамічнай і фінансавай сферах. Міністр паведаміў, што ў сувязі з планамі пашырэння Паўночнаатлантычнага блоку Менск заклікаў скласці дакумент, які вызначыў бы новыя адносіны паміж Бедаруссю і НАТО, па аналогіі з дакументамі, аб падпісанні якіх вядуць перагаворы Расея і Украіна.

**У чаканні паслання**

У Міністэрстве замежных спраў у канцы красавіка і пачатку мая чакаюць вяртання ў Менск пасла ЗША Кенэта Яла віца, які даставіць прэзідэнту Аляксандру Лукашэнку пасланне прэзідэнта ЗША Біла Клінтана, — паведаміў шэф беларускай дыпламатыі Іван Антановіч. Ён нагадаў, што месяцам раней Аляксандр Лукашэнка накіраваў на імя Біла Клінтана пасланне з тлумачэннем свайго бачання беларуска-амерыканскіх адносін, якія склаліся ў апошні час.

**Новікаў аштрафаваны**

Партызанскі раённы суд Менска прысудзіў штраф на 5 млн. рублёў першаму віцэ-спікеру Вярхоўнага Савета XIII склікання Васілю Новікаву за парушэнне прэзідэнцкага дэкрэта аб сходах, мітынгах, вулічных шэсцях і пікетаванні. Справа разглядалася на закрытым пасяджэнні. Васіль Новікаў выказаў нязгоду з рашэннем суда, таму што „была адхілена просьба аб прысутнасці на пасяджэнні прадстаўніка АБСЕ, а таксама не былі заслуханы некаторыя сведкі”. Васіль Новікаў заявіў, што ён не быў арганізатарам шэсця апазіцыі, а быў толькі яго ўдзельнікам.

**Саракагоддзе „Вясёлкі”**

У красавіку 1957 года пабачыў свет першы нумар дзіцячага часопіса „Вясёлка”. На дзень нараджэння выдання 20 красавіка ў Дзяржаўным тэатры музычнай камедыі сабраліся шматлікія сябры, аўтары і васемсот хлопчыкаў і дзяўчынак — прадстаўнікоў шматлікай арміі чытачоў „Вясёлкі”. З нагоды юбілею майстрамі менскага хлебазавода № 5 быў выпечаны велізарны торт, разлічаны на ўсіх прысутных на юбілейнай урачыстасці ў тэатры. На старонках „Вясёлкі” друкаваліся класікі літаратуры і пачаткоўцы, а лаўрэатамі прэмій часопіса з'яўляюцца Рыгор Барадулін, Васіль Хомчанка, Сяргей Грахоўскі, Эдзі Агняцвет, Артур Вольскі і многія іншыя вядомыя майстры слова. Заснавальнікам і першым рэдактарам „Вясёлкі” быў Васіль Вітка.

**Закон аб старастах**

Брэсцкі аблвыканкам прыняў пастанову аб старастах сельскіх населеных пунктаў. На гэту пасаду выбіраюцца найбольш аўтарытэтныя і паважаныя жыхары. У іх кампетэнцыю ўваходзіць садзейнічанне мясцовым органам у вырашэнні ўсіх актуальных пытанняў, арганізацыя работ па добраўпарадкаванні населеных пунктаў, кантроль за дзейнасцю арганізацый, якія аказваюць сялянам розныя паслугі, дапамога ў рабоце культурна-сацыяльных аб'ектаў і многае іншае, што закранае інтарэсы жыхароў вёскі.

**Прымусовая бяздзейнасць**

На чарговыя вымушаныя канікулы пайшоў калектыў Баранавіцкага баваўнянага аб'яднання. Работа спынена да 12 мая. Прычына ранейшая — няма сыравіны. Спыненне прадпрыемства ўдарыла рыкашэтам і па трыццаці сумежніках у рэспубліцы. Пакуль пытанні пастаўкі бавоўны нявырашаны.

**На граніцы стралялі**

Упершыню за многія дзесяцігоддзі мытнік вымушаны быў прымяніць зброю. Гэта здарылася на беларуска-украінскай мяжы каля Маларыты. Праехаць без агляду спрабаваў адзін з вадзіцеляў грузавіка. Толькі пасля папераджальных выстралаў у паветра ён спыніўся. Канфіскавана паўтары тоны спірту. Па факце прымянення зброі праведзена расследаванне і дзеянні мытніка прызнаны правільнымі.

## Неўзабаве ў „Ніве”

- **Культура гандлю ў нас даволі высокая** — даказвае Уладзімір Сідарук.
- **Бедных ніхто не любіць** — пераконвае Васіль Петручук.
- **На „ўсходняй сцяне” штораз больш пуста** — рэпартаж Аляксандра Вярбіцкага.

# Танная вопратка

У пачатку дзевяностых гадоў з'явілася ў нас у продажы танная заходняя вопратка. Менавіта там, на Захадзе, непатрэбнае, але яшчэ добрае адзенне (а таксама мэбля і іншыя прадметы) пакідаецца тамашнімі грамадзянамі ў вызначаных месцах, адкуль пасля апрацоўкі трапляе ў польскія аптовыя склады, а затым у прыватныя крамы з шыльдай „Танная заходняя вопратка". У такі спосаб гаспадарлівы Захад вырашае праблему непатрэбнай старызны і хламу. У нас такую непатрэбшчыну беражлівыя гаспадыні хаваюць па шафах і гарышчах, каб урэшце выкінуць на сметнік, замест аддаць патрабуючым. І гэта адрозніване нас ад Еўропы, у якую як магнітам нас цягне.

З мінулагодняй восені магазін з танным адзеннем атрымала таксама Орля. Гаворыць уладальнік крамы **Генрык Каміньскі**:

— У мяне тавараў больш, чым у суседняй ГСаўскай краме. Можна ў мяне купіць усё — ад шкарпэтак па капялюш. Праўда, шапкі і капелюшы не імпартныя, а майго вырабу, бо шапачнае рамяство ў нашай сям'і мае паўвекавую традыцыю. Танная заходняя вопратка паходзіць з Бельгіі і Галандыі. Там сабранае адзенне сартуюць, мыюць і потым аўтафурамі адпраўляюць у польскія аптовыя склады. У нас гэты тавар правяраецца санепідэмстанцыямі. Я карыстаюся аптовымі складамі ў Харошчы, Суляюўку і Варшаве. Невялікі склад знаходзіцца таксама ў Бельску. Сваім кліентам прапаную шырокі асартымент тавараў па нізкіх цэнах і да таго можна ў мяне яшчэ таргавацца. Наогул у людзей няма грошай і часта даводзіцца даваць людзям тавар у крэдыт. А купляць у мяне варта, бо ў магазіне ГСу кашуля каштуе 33 зл., а ў маёй краме — 7 зл. Людзі ўжо пераканаліся да прапанаванага мною тавару, перамаглі нясмеласць і штораз больш купляюць. Маімі кліенткамі сталі таксама прадаўшчыцы канфекцыйнага магазіна. Купляюць старыя і маладыя. Хопіць раз зайсці ў такую краму, а напэўна станеце яе сталым кліентам.

Міхал Мінцэвіч

# Кіно ў Беларускім музеі

4 красавіка г.г. адбылася першая публічная праекцыя фільма ў доўгачаканым жыхарамі Гайнаўкі кіно ў Беларускім музеі. Удзельнічала ў ёй пяцьдзесят чалавек. Ахвотных было ў некалькі разоў больш, але памер залы і проціпажарныя законы на болей наведвальнікаў не дазваляюць.

Прыгадаю, што памяшканне, у якім цяпер кіно, у праекце музея прадбачвалася як канферэнцыйная зала. Але, калі ў Гайнаўцы не стала кінатэатра, а г.зв. частка Б музея не была яшчэ дакончанай, узнікла думка, каб менавіта тут наладзіць кіно. У ажыццяўленні гэтага праекта дапамаглі тыя гайнаўскія радныя, якія адначасна з'яўляюцца членамі Камітэта пабудовы Беларускага музея.

На першым сеансе, акрамя моладзі, прысутнічалі запрошаныя госці — ініцыятары і прыхільнікі кіно ў Беларускім музеі. Наступнага дня перад будынкам музея кінаманаў аказалася не менш, чым у момант інаўгурацыі. Сталі мы прадаваць білеты на наступныя сеансы. Але тут жа здарылася нечаканая аварыя апаратуры. Апаратура была прадукцыі былога СССР, а найбліжэйшы яе сервіс — у Гродне. Паведамілі мы туды пра свае праблемы, але адначасна і шукалі паратунку сярод мясцовых спецыялістаў з Фурнеля. З аварыяй удалося паспяхова справіцца.

У музеі плануецца пакуль паказваць па два фільмы ў пятніцы, суботы і нядзелі. Калі ахвотных глядзець іх акажацца болей, дык па тры ў суботы і нядзелі. Кіно абслугоўваюць працаўнікі Беларускага музея, а другім кінаапаратарам у ім ніжэйпадпісаны тут

Міхал Голуб

# Гімнастычная зала ў ліцэі

Ад 14 лютага г.г. вучні беларускага ліцэя ў Гайнаўцы карыстаюцца новай гімнастычнай залай. Заканчэнне яе пабудовы планавалася на жнівень-верасень 1996 года. Спазненне атрымалася ў выніку фінансавых клопатаў. Бельскае будаўнічае прадпрыемства, паводле дырэктара школы Яўгена Сачко, ставіла для ліцэя новы будынак, не пытаючыся ў школы пра грошы. Але, калі не хапіла іх у фірме, дык атрымаўся перапынак. У палове лютага г.г. прадпрыемства здало ў карыстанне асноўную частку спартыўнага аб'екта: пляцоўку памерамі ў 30 на 18 метраў, раздзявальні, душы і склад спартыўных прылад.

Гімнастычная зала робіць станоўчае ўражанне і падабаецца настаўнікам фізкультуры ў беларускім ліцэі. Ад восьмай да пятай пасля абеду адбываюцца тут школьныя заняткі па фізкультуры. Пасля пятай за невялікай аплатай залай карыстаюцца жыхары горада. У суботы і нядзелі праходзяць тут усялякія турніры. Вучні беларускага ліцэя ў Гайнаўцы заваявалі ў мінулым годзе пропуск у першую лігу валейбола — апынуліся ў ліку шасці найлепшых калектываў з сярэдніх школ у ваяводстве.

Наступны этап пабудовы спартыўнага комплекса ў Гайнаўцы — крыты басейн. У фінансавым плане з'яўляецца ён гарадской інвестыцыяй — у бюджэце горада выдзелены асобныя фінансавыя сродкі на пабудову. У выпадку клопату з яе даканчэннем радныя ўпаўнаважылі ўправу горада запазычыцца.

Міхал Голуб

# Дрэнная прывычка

Чаромха, як мнагалюдны пасёлак, з'яўляецца выгадным цэнтрам для продажу тавараў для розных гандляроў і крамароў.

Прыватныя прадпрымальнікі зразумелі, што чаромхаўскія „паны" маюць удосталь грошай, каб купіць іхні тавар. Таму да нас пачалі прыязджаць прыватнікі з такімі таварамі, якіх чыгуначны рынак ніколі не бачыў.

Зараз у нас можна купіць вопратку і абутак розных відаў, касметыку, гадзіннікі, палавікі і дываны, бензапілы, гародніну і фрукты, муку, мяса і рыбу, пячэнне і г.д., і т.п. Гандляры, як дружная сям'я, маюць свае прынцыпы. Хто паспрабуе парушыць іхнія законы, можа лічыць на непрыемнасць з боку сваіх калег.

На чаромхаўскім рыначку не так яшчэ даўно кляшчэлеўская пякарня прадавала свой хлеб і іншыя вырабы. Добрая гэта справа была. Кожны мог купіць тут духмяны, свежы хлеб за меншую цану. Пасля продаж спынілася. Перад сёлетнім каталіцкім Вялікаднем кляшчэлеўскі хлеб зноў паказаўся на нашым рынку. Аднак усяго два дні.

Пайшла гаворка ў пасёлку, што чаромхаўскія крамары напалохалі кляшчэлеўскага ўладальніка пякарні, што калі гэты не спыніць продажу хлеба на рынку, зробяць заяўку у гайнаўскую санэпідэмстанцыю, што быццам бы хлеб прадаецца ў неадпаведных умовах.

Паспрабаваў я высветліць справу на месцы, у пякарні.

— Праўда гэта, што кажуць людзі, — сумна канстатуе спадар Валянцін Шчука, уладальнік пякарні ў Кляшчэлях. — Калі на рыначку я пачаў прадаваць хлеб танней, у мясцовых крамах хлеб пачаў заставацца. А некаторыя прывозяць хлеб з Беластока. Таму і пачалі „брахаць". Навошта мне падвяргацца непрыемнасцям і атрымоўваць нейкія штрафы. З санэпідэмстанцыяй няма жартаў. Як захоча, да абы-чаго прычэпіцца... Толькі дзіўна, што мяне аднаго бачаць. У Чаромсе на рынку прадаюцца і мяса на прылаўках, і розных відаў пячэнне, і рыба ды іншыя прадуктовыя тавары. Няўжо гэтага не бачыць мясцовы самаўрад?

Як мне вядома, у Гайнаўцы ці Бельску-Падляшскім таксама прадаецца хлеб з аўтамабіляў, — канстатуе далей В. Шчука. — Няўжо законы пішуцца для адзінак?..

Мне, як пакупніку, хочацца каб на нашых рынках была штораз большая канкурэнцыя, тады цэны будуць меншыя. А мы ж таго дабіваемся. Аднак гэтая канкурэнцыя няхай будзе сапраўднай, рыначнай, а не па нейкіх там „уласных прынцыпах" гандляроў.

Чаромхаўскі прыклад здаецца мне быць дрэннай прывычкай з часоў камуны, калі гэта адзін на другога рабіў „даносы" ў міліцыю.

Толькі ці так быць павінна? У народзе кажуць: „улада любіць даносы, не церпіць даносчыкаў".

Варта аб гэтым памятаць, паважаныя гандляры!

Уладзімір Сідарук

# Папросту трэба дапамагчы!

Нядаўна польскае тэлебачанне дэманстравала фінскі фільм „Blogostan", у якім былі паказаны старыя развальваючыяся дамы, брудныя жылыя памяшканні і старыя людзі ў невялікай расейскай вёсцы Іванкава. Падобныя карціны можна таксама сустрэць і ў дэмакратычнай Польшчы, у тым ліку і на Беласточчыне. Хопіць заглянуць у Градалі, што ў Арлянскай гміне.

У канцы (а можа гэта пачатак) вёскі Градалі, у якой налічваецца 229 жыхароў, галоўным чынам сялян, стаяць старыя, накрытыя саломай будынкі. Трымаюцца яны яшчэ, але хапіла б мацнейшага парыву ветру, каб іх разваліць і давесці да людской трагедыі.

У гэтай драхлай будыніне з дзіравай, падпёртай жэрдкамі страхой жыве 65-гадовая Люба Куцэвіч з сынам Алікам, інвалідам. Жанчына, баючыся пажару ад кароткага замыкання, выключае нанач электрычнасць. Удзень стараецца прабываць па-за хатай, у іншым будынку. Яна з недаверам ставіцца да вяскоўцаў, а загароджаную дротам сядзібу пільнуе сабака. Аднасяльчане ўжо прывыклі да „празмернай любві спадарыні Любы да зямлі і свайго дома" і быццам абыякава глядзяць на ўсё гэта. Жанчына мае 11-гектарную ліхую гаспадарку, але не хоча яе аддаць узамен за пенсію. Солтыс прапанаваў ёй здаць зямлю ў арэнду, але яна таксама адмаўляецца. Па гэтай прычыне атрымоўвае яна толькі штоквартальную мінімальную рэнту.

У Гмінным асяродку сацыяльнай дапамогі ў Орлі мне сказалі, што калі Алік не меў інваліднай пенсіі, яму плацілі грошы. Два месяцы таму асяродак падараваў Куцэвічам кавалак выкладкі на падлогу, але перасяліць іх у лепшую кватэру гміна не мае магчымасці.

Праблема застаецца нявырашанай. Двое бяздарных людзей надалей жывуць у развалінах. Хацелася б мне, каб мой допіс пасадзейнічаў вырашэнню праблемы. Трэба нешта зрабіць, каб на нашых вачах не дайшло да людской трагедыі!

Міхал Мінцэвіч

*Фота аўтара*



# Абеліскі ў Замбраве

[1 ☞ працяг]

„Хімвалакно”. З нержавеючай бляхі выканана два абеліскі вышынёю каля шасцідзесяці сантыметраў з пяціканцовымі зоркамі і сціплымі надпісамі на расейскай мове. Напярэдадні іх замацавання Консул атрымаў інфармацыю, што польскія законы вымагаюць надпісаў на польскай мове на помніках, пастаўленых на тэрыторыі Польшчы; будуць яны выкананы і даклеены да існуючых. Помнікі пастаўлена 15 красавіка. Некалькі тыдняў раней абноўлена стаячыя дагэтуль запушчаныя помнікі, якія былі памаляваны бескультурнымі графіці мясцовымі вандаламі. Урачыстае адкрыццё новых абеліскаў прымяркоўваецца да Дня Перамогі 9 мая. Консул Міхаіл Слямнёў плануе запрасіць на гэтую ўрачыстасць паслоў Беларусі, Украіны, Расеі і, магчыма, яшчэ другіх дзяржаў. Жывые яшчэ двух ацалелых удзельнікаў бою, аднак стан іх здароўя не дазволіць ім прыехаць. Можа з Масквы прыедзе сын каменданта школы, лейтэнанта Дзеева, якому ў чэрвені 1941 года было дзесяць месяцаў; сам лейтэнант Дзееў быў напярэдадні бою забіты нейкім правакатарам.




*Надпіс на доце за вёскай Мінчэва каля Драгічына.* Фота з архіва

На акт устаноўкі помнікаў Консул запрасіў рэдакцыі беластоцкіх сродкаў масавай інфармацыі. Апрача мяне з'явіліся толькі беларускія тэлежурналісты. Польскіх лёс „нейкіх акупантаў” не зацікавіў. Сумнае гэта, аднак давялося мне пабачыць яшчэ больш сумнае. Вось прыехаўшыя ў замежжа прадстаўнікі Беларусі, два гродзенскія рабочыя неслі ваду, каб размяшаць цэмент. І неслі яе прама праз той бугарок; не каб мінулі побач, але палезлі акурат тудою, топчучы месца вечнага пахавання нікому і нічым яшчэ не правінbackўшыхся маладых людзей, сваіх суродзічаў а можа і блізкіх. Каб хаця крыху пашаны і спагады ім, хаця пасля смерці, бо пры жыцці былі толькі *пушечным мясом*, пакінутымі амаль з голымі рукамі насупраць варожых танкаў, затое з загадам *выстоять насмерть*... А можа рабочыя не ведалі? Можа іхнае начальства прывезла іх, каб толькі *подготовить какое-то торжество*, а не схіліць галовы і задумацца над іх і сваім лёсам. Хто ўшануе іх там, на чужой зямлі, калі сваё не шануюць? Бо надзея, што можа чужыя вандалы не апаганяць гэтага месца, вельмі кволая.

**Аляксандр Вярбіцкі**

# Беластоцкі лагер — „Даліна смерці”

5 лютага 1919 года ў Беластоку было падпісана польска-нямецкае пагадненне пра змену акупацыі на тэрыторыі заходняй Беларусі. Нямецкая армія пакідала межы былой царскай імперыі, а на ўсход рушылі легіёны Пілсудскага. Вясной 1919 года Гарадзеншчына і Віленшчына апынуліся пад кантролем палякаў. На Беларусі тым часам ужо год існаваў урад Беларускай Народнай Рэспублікі, які ствараў сваю адміністрацыю, школы, вайсковыя фарміраванні і наладжваў дыпламатычныя адносіны з суседнімі краінамі. Палякі, якіх арміі ў красавіку 1919 г. увайшлі ў Беларусь, сваю ўладу пачалі ўстанаўліваць з ліквідацыі беларускіх асветных, культурных, адміністрацыйных і вайсковых устаноў. Беларуская інтэлігенцыя, жаўнеры і афіцэры найчасцей траплялі ў канцлагер, які знаходзіўся ў Беластоку, у ваколіцы Пятрашаў. З увагі на страшлівыя ўмовы пануючыя ў гэтым месцы адасаблення палітычных вязняў, кожнага дня амаль сотня зняволеных памірала ад голаду, хвароб і холаду. Па гэтай прычыне беластоцкі канцлагер называлі „Далінай смерці”.

Іван Антонаў быў кіраўніком беларускай пачатковай школы ў Гародні і членам Беларускага нацыянальнага камітэта Гарадзеншчыны. Арыштавалі яго ў ліпені 1919 года, не прадставіўшы яму ніякіх абвінавачанняў. Спачатку трапіў ён у кракаўскі канцлагер „Домбе”, дзе прабывала 12 тысяч украінцаў, расейцаў, беларусаў, літоўцаў, казакаў, якія раней змагаліся з бальшавікамі, а палякаў памылкова ўспрынялі за сваіх саюзнікаў. Было там каля 400 настаўнікаў з Беларусі, якіх арыштавалі пасля красавіка 1919 года. У верасні Антонава вызваліла вайсковая камісія, не дашукаўшыся нічога, што магло б апраўдаць яго пабыўку ў канцлагеры. Пяць дзён пасля вяртання ў Гародню мясцовая паліцыя арыштавала яго паўторна, не прадстаўляючы і гэтым разам ніякіх закідаў у парушэнні закона. Антонаў трапіў у беластоцкую „Даліну смерці”. У лютым 1920 года, у выніку візіту амерыканскай місіі, як адзін з нешматлікіх вязняў гэтага канцлагера, якім удалося выжыць у кашмарных умовах, быў вызвалены. Палякі рыхтаваліся да вайны з бальшавікамі і хацелі, каб на Захадзе бачылі Польшчу як цывілізаваную краіну.

Іван Антонаў напісаў успаміны, у якіх прадставіў сітуацыю Гарадзеншчыны ў 1919—1921 гадах, сваю пабыўку ў канцлагерах Кракава і Беластока*. Чытачам „Нівы” прапануем фрагменты апісання беластоцкага канцлагера „Даліна смерці”.

**(рэд.)**

*У беластоцкім лагеры болей цяжкі малюнак жыцьця прадставіўся мне [чым у Кракаве]. У сырых, халодных бараках, на голых у два ярусы нарах, валяліся голыя і галодныя заключаныя. Безупынныя эпідэміі тыфу, крывавыя дызэнтэрыі. Асабліва вялікі працэнт хворасьці і сьмяротнасьці стаў пры наступленьні халадоў, на пачатку лістапада. Людзі гінулі як мухі. Лагерная адміністрацыя толькі ўвагі прысьвячала захварэўшым, што і мухам у мухалоўках — выкідалі ў сырую яму. Захварэў тыфам малады дохтар, захварэў і памер, памерлі дзьве сястры міласэрдзьдзя. І той слабы мэдыцынскі дагляд перастаў існаваць. Стало паміраць у дзень па 50 і 70 чалавек.*

*Кожны ранак у трупны сарай ня зносілі ўжо, а на вазах звозілі акачанеўшых за ноч хворых людзей. Кіраваў трупамі і хаваў іх у агульнай магіле нейкі Троцкі. Меў на гэта шырокія паўнамоцтвы ад камэнданта лагера Тыліцкага. Кожны паміраючы рабіўся падначаленым Троцкага. Здаралася іншы раз, што на насілках мяртвец, адагрэты варуючэньнем і сонцам на панадворку, пачынаў варушыць членамі, выяўляць адзнакі жыцьця, але гэта не парушала права ўласнасьці Троцкага на сваю ахвяру. Спакойна глядзелі на гэта і насільшчыкі, заяўляючы: „Ну што-ж не пажывёш на гэтым сьвеце, памрэш і так праз дзьве гадзіны, памруць усе што ў гэтых бараках, гнілых ямах, ляжаць голыя і галодныя на голых нарах без пакрывалаў у мароз”. Троцкі вывозіў трупы на асобныя для іх могілкі і закапваў адразу па некалькі сот у адну магілу, укладваючы іх як дровы ў стосы, без малітвы і надпісаў. Ульсьнікам вопраткі і абутку памершых станавіўся Троцкі, любіўшы гандаль як гагалеўскі Янкель.*

*Вазы, на якіх вазілі трупы, зараз-жа пасылаліся ў горад па хлеб для нас, і прывозілі яго часта забруджаным у крыві і астаткамі трупаў.*

*У пачатку кастрычніка пры заключэньні мяне ў лагер, у ім налічвалася каля 3 тысяч інтэрнаваных і ваеннапалонных, у пачатку лютага 1920 г. асталося ўсяго каля 700 чалавек. Жудасна і абідна рабілася гледзячы на гэты лагер сьмерці, гінулі тут маладыя і найбольш надзейныя людзі патрэбныя сям'і і нашай Бацькаўшчыне. У куточку аднаго пралетарскага бараку, побач дзіравай сьцяны ляцелі крыкі і стогны паміраючых мучанікаў, прытуліўся гурток 5 настаўнікаў пачатковых школ Слонімскага павету. Двух зь іх, афіцэры, мелі права на прывілеі і афіцэрскі барак, але яны лічылі за лепшае чашу бяды зьнясьці неразлучна са сваімі таварышамі. Ляжаць усе яны на голых нарах, бяз пальтаў, галодныя ў сырым бараку, цесна прытуліўшыся адзін да аднаго чакаюць чэргі пераходу пад уладу камендантa памершых Троцкага. Настаўнікі ўжо захварэлі, мучыліся, гаварылі да сябе, пра сям'ю, Бацькаўшчыну, голасна праклінaлі палякаў — сваіх мучыцеляў, памiралі. „За што вас інтэрнавалі ў лагер?” — запытаўся я арыштаваных з суседняга бараку. — „Хацелі паставіць беларускі спектакль і сталі рыхтавацца да яго. Вось усю трупу артыстаў ізалiравалі ад народу, як цяжкіх праступнікаў. А мы толькі марылі пра Беларусь”. Пасля 3 месяцаў пабыўкі ў канцлагеры ад жыцьцярадасных настаўнікаў і любіцеляў беларускага тэатру асталіся адны толькі цені.*

*На другім ярусе голых нараў ляжаць два юныя бязвусыя прапаршчыкі. Скончыўшы 8 клас гімназіі былі пад пагрозай расстрэлу змабілізаваныя бальшавікамі. Юныя „бальшавікі” апынуліся ў палоне ў палякаў з надзеяй папасьці ў армію Дэнікіна. Ляжалі тварам уніз і плявалі крывёю, дні іх былі лічаныя. У супрацьлеглым кутку, бліжэй выхадных дзьвярэй, скруціўшыся ад болю выкліканага крывавай дызэнтэрыяй, ляжалі сьвежазахварэўшыя. Чакаючы пераходу ў лагер Троцкага праклінaлі сваю долю і варшаўскіх бальшавікоў, сваіх забойцаў.*

*Пад Менскам самаахвотна аддаліся ў палон палякам данцы-казакі. Зразу адабралі ад іх вопратку, абутак, грошы, гадзіньнікі і ўсё, што мела нейкую цэннасьць. Пасьля прывезьлі ў беластоцкі лагер — „Даліну сьмерці”.*

*Усе мы там былі падобнымі на загнаны ў загарад скатабойны гурт быкоў на ўбой. Так як статак быкоў і нас жорсткія людзі загналі ў загарад, морaць голадам, холадам і эпідэміямі, перасяляюць у падземнае царства тэрыторыі Троцкага. Мы дэмаралізаваныя, псыхічна падаўленыя, атручаныя горам народа і свайго страданьня, жаліліся ад холаду і зьдзекаў, дрыжэлі ад страху. Не хацелася прапасьці як жывёла, на чужыне, далёка ад сваіх родных і блізкіх. Большасць назначаных на жахлівыя страданьні і сьмерць, былі людзьмі вялікай адвагі, прайшлі пекла вайны. Усё што чалавечае згніло там у нас, астаўся толькі жывёлавы эгаізм, інстынкт самазахаваньня.*

**Ів. Антонаў**

* І. Антонаў, *Успаміны аб польскай акупацыі Горадзеншчыны ў 1919-1921 гг.*, Каўнас 1921.

# Вызначалі „Белавежу”

20 красавіка г.г. госцем Беларускага літаратурнага аб'яднання „Белавежа” быў **Уладзімір Конан**. Тэмай яго выступлення стала вызначэнне месца для літаратурнага руху нашай меншасці ў агульнабеларускай перспектыве.

Паводле У. Конана роля „Белавежы” ў агульнабеларускім літаратурным працэсе будзе залежаць ад кандыцыі самой Беларусі — расейскія дэмакраты цяперашнім часам уголас задумваюцца як праглынуць Беларусь: „оптам” ці „ў розніцу”. Ва ўмовах імперыі ўсе сілы народа растрачваюцца не на ўнутраны прагрэс нацыі, а на ўтрыманне самой імперыі. На думку ўдзельнікаў Аб'яднання „Белавежа” няма рацыянальных падстаў, каб далучэнне Беларусі да Расеі адбылося на самай справе — Расея сама знаходзіцца на мяжы эканамічнага банкруцтва.

Узнікненне Беларускага грамадска-культурнага таварыства, тыднёвіка „Ніва” і неўзабаве Літаб'яднання „Белавежа”, на думку У. Конана, нагадвае сваім характарам адраджэнскі працэс нашаніўскага перыяду. Георгій Валкавыцкі дапоўніў тут, што ўвесь працэс, які праходзіў на Беласточчыне не меў ніякага дачынення да Беларусі 50-х гадоў. Не было ніякіх кантактаў паміж творчымі асяроддзямі абедзвюх краін. Сакрат Яновіч дадаў тут нават, што пішучы першае сваё апавяданне, ён яшчэ не чуў пра Янку Купалу.

У. Конан, абагульняючы высновы свайго даклада, сказаў, што пачынальнікаў абодвух адраджэнняў спалучае выхаванне ў польскай культуры. „Белавежа”, як самастойны працэс, стварыла традыцыю, якая ў змозе спараджаць новыя пакаленні літаратараў.

**Аляксандр Максімюк**

БЕЛАВЕЖА

СТАРОНКА ЛІТАРАТУРНА-МАСТАЦКАГА АБ'ЯДНАННЯ № 448

Рэдактар: Сакрат ЯНОВІЧ

# Менш беларусаў — больш беларускасці

Сакрат ЯНОВІЧ

У сферы беларускай культурнасці ў Польшчы наглядаецца класічны парадокс: чым меншае запатрабаванне ў грамадстве на нацыянальную культуру, тым больш выходзіць кніжак, беларускіх або прысвечаных беларускай праблематыцы. Гэта, вядома, вынік настаўшага дэмакратызму, калі аказалася, што нажылі мы даволі значны гурт інтэлігенцыі ў нашым народзе, які, аднак, суседнія імперыялізмы ўдала адзвычаілі быць сабою.

Гаворачы пра кніжкі, я маю на ўвазе адразу **тры**, што нядаўна выйшлі з друку адна за адною. Менавіта: зборнік эсэ Яна Чыквіна *Далёкія і блізкія. Беларускія пісьменнікі замежжа*; затым *Antologia poezji białoruskiej XX wieku*, складзеная вроцлаўскім прафесарам Тэлесфарам Пазьняком, і манаграфічнае даследванне праф. Васіля Белаказовіча *Mikołaj Janczuk (1859-1921). Podlaskie skrzyżowania tradycji słowiańskich*.

Кожнае з гэтых выданняў датычыць і нашага, польскага, фрагменту беларускай культуры, без якога сёння немагчыма ўявіць наогул усю нацыянальную. Асабліва каштоўная кніжка Чыквіна. Ён паказаў сябе не толькі выдатным паэтам з высокай творчай культурай, але і ўдумным эсэістам, у чым паспрыяла яму грунтоўная прафесарская падрыхтаванасць. Яшчэ і талент не марудна выкладаць свае думкі.

Ад моманту з'яўлення гэтай кніжкі даследнікі маюць дачыненне з іншым, новым, поглядам на творчасць плеяды беларускіх пісьменнікаў, што апынуліся ў эміграцыі, галоўным чынам на амерыканскім кантыненце. Да іх ліку належаць — Масей Сяднёў, Наталля Арсеннева, Янка Юхнавец, Кастусь Акула. Пра іх цяпер можна пачытаць у мінскіх часопісах, але, на жаль, па-публіцыстычнаму павярхоўна. Чыквін дае сур'ёзны пачатак крытыкі, па-свойму неакадэмічна, як паэт пра паэтаў. Пры нагодзе цікава адзначыць, што рэдка творцы пішуць пра таварышаў па пяру. Як рэдка добры паэт бывае адначасова добрым літаратурным аналітыкам. У тым і ўнікальнасць таго, што робіць Ян Чыквін.

У зборніку Чыквінавых эсэ знаходзім займальныя сваёй інтэлектуальнай паглыбленасцю мастацкія аналізы творчасці пісьменнікаў, таксама, „Белавежы". З нейкай улюбёнасцю тлумачыць ён чытачу непаўторную вартасць паэзіі Надзеі Артымовіч, аўтаркі надзвычай эксклюзіўнай, кантакт з вершамі якой вымагае небанальнай інтэлігентнасці. Ян Чыквін, здаецца, так і кажа ўсім нам, што дзякуючы Артымовіч мы хутчэй выходзім з заглухласці літаратурнай правінцыі.

У падобным духу адкрыцця паэтычнай з'явы піша пра Уладзіміра Гайдука, прынарваўскага самотніка. У гэтай пустэльні паэзіі адкрыў ён яе жывую крыніцу, цудадзейную кожнаму паломніку туды, калі хто не ўдаўся таўстаскурым чалавекам. Каб зразумець верш Гайдука, трэба яго спачатку адчуць, мець далікатнасць у дакрананні да радасці ад прыгажосці духа. Гайдук як паэт не столькі піша, колькі запісвае менавіта, бо сам ён жыве паэтычна штохвіліны, штодня. У гэтым яго — дарэчы будзе заўважыць — і жыццёвая бяда ў свеце бяздушных рэчаў, драпежных грошай. І, адначасна, у нечым боскае шчасце, даступнае толькі яму. Кшталтам святасці.

Вельмі трапна канцэнтруецца Чыквін на спадчыне знакамітай Ларысы Геніюш і яе сына Юркі. Гэтая сям'я пакінула спецыфічны след у беларускай культуры, у літаратуры. Іх творчасць лучылася з натхнёнай грамадскай дзейнасцю, уяўляла сабою нешта адзінае; дзяяцкая актыўнасць неразлучна вязалася з творчай. Падобны тандэм не так часты ў гісторыі літаратуры. Юрка ўзыходзіў на „белавежскі" Парнас неяк асобна. Вырозніваўся ён сярод нас сваім несялянскім паходжаннем, адкрытасцю еўрапейца, выхаванага ў каралеўскай Празе. Маці яго была вядомай асобаю ў свеце беларускай палітыкі, набліжанай да эміграцыйнага цэнтра Беларускай Народнай Рэспублікі ў выгнанні. Такі лёс абавязвае, і Геніюшы засталіся ў нашай памяці як прыклад патрыятызму, асабістай дастойнасці.

Зусім іначай трактуе Ян Чыквін тое, што засталося ад беларускай творчасці Яшы Бурша, паэта польскага, аказваецца, і мастака-жывапісца. Па-прафесарску аналізуе Буршавы тэксты. Бурш, магчыма, дачасна паявіўся ў нашым тады, даволі прымітыўным, асяроддзі... Рана і назаўсёды змоўк ён, заняўшыся маляваннем. Чыквін, аднак, выразна не ведае аб тым, што Яша Бурш быў перш за ўсё якраз польскім паэтам і тое, што мы ведаем з яго спадчыны па-беларуску, ён, выяўляецца, звычайна перакладаў сам са свайго! Яго літаратурная будучыня магла збыцца не столькі ў нас, колькі на варшаўскім Парнасе. Але не збылася і там.

Асобнай тэмай сталіся паэтычныя творы Міхася Шаховіча. На думку Чыквіна, аб'яднанне „Белавежа" на працягу сарака гадоў свайго існавання нямала патраціла добрых талентаў, у іх ліку і Міхася Шаховіча (ён ужо амаль не піша). Я дазволю сабе ўсё ж не пагадзіцца з такім меркаваннем наконт творчай арганізацыі. **Калі хто можа не пісаць, няхай не піша**. Так я лічу, ведаючы сёе-тое наконт самое прыроды таленту. Сілком цягнуць у літаратуру каго не раз даводзілася і мне, прадчуваючы ў таго кагосьці менавіта літаратурны талент. Эфект быў заўсёды такі, што, пасля неблагога дэбюту з маёй усяляк аказанай дапамогаю, аўтар зноў ссоўваўся ў графаманію. Ён — той ці іншы, не называючы прозвішчаў, — проста не даваў рады навучыцца пісьменскаму рамяству. Аднаго таленту тут мала, такая брутальная праўда, трэба яшчэ характар мець, апантана працаваць над сабою, нарадзіцца пасіянатам, а не самазадаволеным і мілым бабам франтам. Нават больш таго: таленавітых людзей заўсёды многа, але ўсяго толькі некаторыя з іх у стане пакарыстацца гэтым сваім боскім дарункам. Вяртаючыся да Шаховіча, ён паказаў сябе раней чалавекам настойлівым ды працаздольным, і таму надалей мае шанц аднавіць свой патэнцыял духа. Помач збоку яму тут непрычым, мусіць узнікнуць у ім самім уласная воля, бо нішто іншае як яна можа нешта гарантаваць. А не арганізацыя, роля якой: успамагаць — так сказаць — ужо хочучых, не бавячыся ў „школку талентаў".

Прыемна адзначыць нататкі знакамітага Уладзіміра Конана з Мінска пра творчасць самога Яна Чыквіна. Такія, вартыя настойлівай увагі, публікацыі інтэгруюць наша асяроддзе ў агульнанацыянальнае.

Запыняючыся над анталогіяй беларускай паэзіі, складзенай Тэлесфарам Пазьняком, нельга пазбыцца ўражання нейкай адарванасці яго ад беларускага літаратурнага жыцця. Анталогія фармавалася хутчэй за ўсё ў цішыні чытальнай залы ўніверсітэцкай бібліятэкі, чымсьці ў настроі ажыўленых творчых знаёмстваў, карэспандэнцыі, візітаў. Я гатоў зразумець, чаму выпаў з анталогіі адзіны з грунтоўнай адукацыяй наш вялікі паэт Максім Багдановіч (памёр у 1917 годзе і таму не змясціўся ў рамках эдытарскай канцэпцыі ахопу паэтычных з'яў ад 1918 г.). Але ўжо цяжка апраўдаць адсутнасць у ёй пазнейшага Аляксея Пысіна, выдатнага лірыка. Як і цяжка апраўдаць якраз прысутнасць некаторых іншых, творцаў выразна другарадных, вершы якіх памерлі разам з імі, не перайшлі ў працяг мастацкай памяці літаратурнай Беларусі. Асобна патрактаваў Пазьняк заходнебеларускую паэзію, як і эміграцыйную. Я не супроць таго. Але супроць менавіта неселектыўнага падыходу да тае спадчыны, якая засталася нам. Шчыра кажучы, шмат-хто з іх быў недалёкі ў творчым плане, слабы.

Пісьменнікаў „Белавежы" заўважыў Тэлесфар Пазьняк, таксама, не ў выніку непасрэдных кантактаў з нашым асяроддзем. Ён як быццам не падазрае нават існавання ўнікальнай творчасці Надзеі Артымовіч, ці „жывога серабра паэзіі", якім бачыцца Уладзімір Гайдук. Іх кніжыц, відаць, няма ў бібліятэцы? Ёсць затое ў Вроцлаве няшчасная мінская анталогія „Літаратурная Беласточчына", выдадзеная савецкімі літаратурнымі разбойнікамі яшчэ ў 1973 годзе. Надрукаванае ў ёй маё — для прыкладу — гэта не маё, а напісанае пад маім прозвішчам якімсьці палітруком па лініі выхоўвання аўтараў у духу сацыялістычнага рэалізму, забытай цяпер вульгарнай эстэтычнай гадышняй тэорыі. Прасцяцкай, на ўзроўні варвара няздольнага абстрактна думаць.

Гэты камісарскі фальсіфікат „сакрацікаў" Пазьняк паўтарыў некрытычна ў спомненай анталогіі, даводзячы мяне вось да ціхай роспачы...

Меланхалічна чытаецца праца праф. Васіля Белаказовіча, манаграфічная, пра Мікалая Янчука. На зломе стагоддзяў жыў такі інтэлектуал, родам з падляшскае Корніцы, што за Бугам; адзін з першых прафесараў маладога Беларускага універсітэта ў Мінску (1921 год). Пісаў ён вершы на гаворцы свае ваколіцы і таму, у некаторым сэнсе, можна назваць яго класікам літаратуры на падляшскай мове. Такая характарыстыка асобы Янчука тым больш абгрунтаваная, што мова тая ўжо даўно прапала, глынула яе паланізацыя. Наведаўся я неяк у тое старонне, але, акрамя прозвішчаў тыпу Іванюк, нічога не застаў; асіміляванае простанароддзе гаворыць на правільнай польскай мове, прывучанае школай, адміністрацыяй, ксяндзамі. Нават без дыялектнай афарбоўкі, што заўсёды сведчыць аб культурным неаўтэнтызме, некарэннасці. Сумняваюся, ці сённяшнія корнічане ўспрымуць з гонарам капітальную працу Белаказовіча. Напэўна не, бо яна ім будзе як папрок у іх адрас, як выклік іхнаму перайначанаму сумленню. Хоць, папраўдзе, паланізаваў тых падляшукоў сам цар расійскі, зніштажаючы тамашняе уніяцтва, што скончылася масавымі ўцёкамі аўтахтонаў у рымска-каталіцкія касцёлы, у якіх, аднак, іх русінскаму слову не магло быць месца.

Свядомы свайго падляшуцтва Мікалай Янчук застаўся адзін за ўсёй свой народ. Адзін за ўсё тое паўднёвае Падляшша. Ствараў вершы на тутэйшай мове, якія, на жаль, чыталі і цанілі не каля тых Седльцаў або Белай, але ў Маскве, у акадэмічных кабінетах. Гэта быў паэт без народа, паэт, які жыў як бы супроць волі свайго народа. Народа, які не жадаў і не адчуваў патрэбы быць ды застацца народам. Тлумна парабіліся падляшукі заядлымі палякамі. Згодна логіцы неафітызму ды асімілянцтва.

Лёс Мікалая Янчука не дае мне спакою. Ён, велікан духа, прайшоў праз усё тое, праз што праходзім мы толькі цяпер, век потым.

Каб мець культуру — мала мець яе творцаў, трэба яшчэ і народу.

Ян Чыквін, *Далёкія і блізкія. Беларускія пісьменнікі замежжа*, Бібліятэчка Беларускага літаратурнага аб'яднання „Белавежа", Беласток 1997.

Telesfor Poźniak, *Antologia poezji białoruskiej XX wieku*, Wydawnictwo Uniwersytetu Wrocławskiego, Wrocław 1997.

Bazyli Białokozowicz, *Mikołaj Janczuk (1859-1921). Podlaskie skrzyżowania tradycji słowiańskich*, Wyższa Szkoła Pedagogiczna, Olsztyn 1996.

# Зорка
СТАРОНКА ДЛЯ ДЗЯЦЕЙ

# Гуканне вясны

Хто сёння памятае пра старадаўняе гуканне вясны?

Сёняшнія веснавыя абрады зводзяцца да святкавання першага дня вясны, 21 сакавіка. Тады многія школьнікі ідуць на рэчку тапіць пудзіла зімы, Маранну.

А даўней нашы продкі вельмі ўрачыста і заўзята гукалі вясну. Для гэтага абраду існавала многа жыццярадасных гульняў, песеньвяснянак і танцаў-карагодаў.

Нядаўна ў Беластоку адбылося цікавае мерыпрыемства. Наладзілі яго настаўніцы і дзеткі з беларускага прадшколля. Праўда, дашкольнікі ўтапілі ў Бялцы ужо ў першы веснавы дзень Маранну. Апрача гэтай, прынятай па школах і дзіцячых садах гульні, падрыхтавалі яны і традыцыйнае гуканне вясны. І вось 17 красавіка ў беларускім прадшколлі сабралася многа радні і сяброў дзетак. Усе яны атрымалі запрашэнні на беларускай мове. На сцэну выйшаў каляровы карагод. Фантастычныя ўборы наводзілі сонечны і цёплы настрой. Вялікае ўражанне выклікала Эмілька Мусько, пераапранутая за вясну. Дзяўчынка быццам вясёлка зіхацела колерамі вясны. Вясну гукалі (вершыкамі) Міхась Хмялеўскі, Оля Максімюк, Эля Юшчук, Пятрусь Стэльмашук і Анна Яканюк. І ўсе іншыя дзеткі дапамагалі сябрам. Яны праспявалі вяснянкі і жартаўлівыя прыпеўкі. Публіцы вельмі спадабалася гульня ў бусла і жабак. За бусла быў пераапрануты Пятрусь Стэльмашук, а за жабкі — ўсе наймалодшыя дашкольнікі. Дзеткі танцавалі беларускі танец „польку-янку”. Згадайма, што дашкольнікі ведаюць ужо „польку-бульбу” і „крыжачка”.

Сцэнарый „Гукання вясны” падрыхтавала настаўніца Эва Гняздоўская. Усе апошнія настаўніцы — Альжбета Бурачэўская, Альжбета Рудчук, Галіна Іванюк і Аня Бобік рыхтавалі пастаноўку.

Дзеткі вельмі сур'ёзна ставяцца да выступленняў, — кажа сп. Альжбета Бурачэўская. — Гэта пэўна таму, што ў нас вельмі часта ладзяцца розныя пастаноўкі. Вось зараз бацькі, дзеткі і настаўніцы ладзяць другую частку „Вяселля”. Апрача гэтай п'есы прадбачваецца „Свята Маці” і „Купалле”. Тады да наступнай сустрэчы на нашым мерапрыемстве, сябры!

**Зорка**

*Фота Ганны Кандрацюк*



*Дзеткі і настаўнікі з беларускага прадшколля ў Беластоку.*

# Прыйшла вясна

Вясна пачалася 21 сакавіка. У гэтую пару года робіцца штораз цяплей. Пачынае раставаць снег. Дзе-нідзе можна пабачыць маладую траву. У агародах з зямлі вырастаюць кветкі. Яны рознакаляровыя. З цёплых краёў прылятаюць буслы, жаваранкі, шпакі, гусі, качкі, кнігаўкі. У лясах абуджаюцца з зімовага сну вожыкі, мядзведзі.

Вясковыя людзі пачынаюць работу ў полі. У агародах садзяць буракі, моркву, капусту, салату, дыні, цыбулю, часнок і іншыя. На полі сеюць ярую пшаніцу, авёс, а на пачатку мая будуць садзіць бульбу і цукровыя буракі.

Усім дзецям хочацца пабыць на дварэ. Вясной людзі наводзяць парадкі на панадворках і рыхтуюцца да Вялікадня.

**Андрэй Крук**
**ПШ у Новым Корніне**

# „Бум”

Калісьці мой бацька, яго сястра і дзве яго суседкі знайшлі на полі бомбу. Але яны былі малыя і не ведалі, што гэта такое. Узялі гэтую бомбу, пайшлі ў клуню, дзе мой дзед і мая баба штосьці рабілі і пачалі спяваць „Раждажство Хрыстова...”. Дзед і баба, калі пабачылі бомбу, спужаліся. Баба сказала, каб кінуць бомбу на стог сена. Але дзед адапхнуў бабу і сказаў, каб усе пакладіся на зямлю. Узяў бомбу, кінуў яе за гару, якая была каля клуні, а сам лёг у разору. Хутка раздалося гучнае „бум”. Бомба выстраліла ў паветра. У гэтым часе быў у школе партыйны сход і бацька баяўся, што яго пасадзяць у турму. Аднак ніхто не даведаўся, што такое здарэнне мела месца. І добра, што тады ўсё адбылося шчасліва і без ахвяр. А бывала і горш!

Успаміны свайго бацькі запісала

**Магда Мартыновіч**
**вуч. V кл. ПШ у Орлі.**

## Вершы Віктара Шведа

### Адкуль мне гэта ведаць?

Пытае ранкам Люда
Брата свайго, Міколу:
— Ці ведаць усё буду,
Калі пайду я ў школу?

Азваўся мімаходам
Мікола-непаседа:
— Ведаў жа шмат заўсёды,
Адкуль мне гэта ведаць?

### Вырашыш за нас задачы

— Пойдзем цэлым класам
У кіно мы сёння.
Ідзеш з намі, Бася? —
запытаўся Лёня.

— Не пайду я. Лёўка,
Зычу вам удачы.
— Ты за ўсіх нас зноўку
Вырашыш задачы.

### Поўны асёл

— Ты выдурняешся так многа,
Смяюцца ўсе з цябе наўкол.
Табе бракуе толькі рогаў.
А быў бы поўны ўжо асёл.

— А ці ты бачыў калі-небудзь
Каб быў з рагамі гэты звер?
— Рогаў калі аслу не трэба —
Асёл ты поўны ўжо цяпер.

# Польска-беларуская крыжаванка № 18

gołębica
plecak
osa
łapka
chochla
nos
pokrzywa
strefa
bazar
as
usta
smok
cios
małe czoło
kłopot
spód
wikary
łan
maj

Запоўніце клеткі адпаведнымі словамі. Адказы (з наклееным кантрольным талонам) дашліце ў „Зорку”. Тут разыграем цікавыя ўзнагароды.

**Адказ на крыжаванкі н-р 14:** краса, гул, зіма, ваяк, яда, сук, агіда, сум, яд, маланка.

**Лозунг:** Беларусь.

Узнагароды — **запісныя кніжкі** — выйгралі: **Лукаш Астроўка** з Нарвы, **Рыгор Камар** з Тыневіч-Малых, **Кася Наскоўская** з Нарвы, **Марцін Мялешка** з Катоўкі, **Пятро Сегень** з Бельска-Падляшскага.

**Каляровыя сумкі** выйгралі: **Яраслаў Вышынскі** з Бельска-Падляшскага, **Агнешка Шварц** з Ласінкі, **Уля Гегель** з Гарадка, **Наталля Матысюк** з Бельска-Падляшскага.

## Крыжаванка Давіда Скавародкі.

сніш яго ўначы
ім рысуем
белы зімой
летам шэранькі, а зімой беленькі
расце на лузе

Талон „Зоркі” № 18
04.05.1997

# Беларускі тэатр у Кляшчэлях

18 красавіка г.г. у ПШ у Кляшчэлях адбыўся IV агляд сцэнічнай творчасці. У мерапрыемстве ўдзельнічалі школьнікі з многіх мясцін Беласточчыны. Некаторыя з іх, напрыклад, вучні ПШ у Дубічах-Царкоўных ці Рыбалах, паставілі па дзве п'есы. У выніку атрымалася аж пятнаццаць пастановак. Мерапрыемства сарнагізавалі БГКТ і Мейскагмінная ўправа ў Кляшчэлях.

### Які рэпертуар

загасціў на сцэне сёлетняга агляду? Першымі выступілі дзеткі з Дубін. Яны паказалі школьную п'есу „Віфлеемская ноч". Гэты твор падрыхтавала Надзея Гаган з думкай пра школьную ёлку. Дарэчы, пераклала яна сцэнарый з польскай мовы.

За Дубінамі выступілі дзяўчаты з Чыжоў са сцэнкай „Ой, прадай бабулька бычка". Выступленне дзяўчат было класнае, на жаль кароткае.

Паклоннікі сцэнічнай творчасці з Ласінкі прадставілі п'есу „Як звяры школу будавалі". Маладыя акцёры з Ласінкі атрымалі бурныя апладысменты.

Васіль Сегень, настаўнік беларускай мовы ў Старым Корніне, разам са сваімі вучнямі, падрыхтавалі п'есу „Пярэстая красуля". Клеснікі прыехалі з пастаноўкай сцэнічнага твора „Хто вінаваты". А энтузіясты тэатра з Рыбалаў прывезлі аж дзве п'есы — „Пінскую шляхту", падрыхтаваную вучнямі пачатковай школы і „Жураўлінае пяро" ў выкананні самадзейнікаў з Дома культуры ў Рыбалах. Нараўскія школьнікі прадставілі твор „Хлопчык у лесе".

— Нашы вучні вельмі любяць гэту п'есу, — сказала Ніна Абрамюк, метадыст па беларускай мове і заадно энтузіястка школьнага тэатра ў Нарве.

Не падвяла і Гайнаўка. Адтуль прыехалі не толькі вучні са школьным тэатрам але і самадзейнікі з Гайнаўскага дома культуры. Гэтыя апошнія паказалі ў выглядзе лялечнага тэатра п'есу „Пшанічны каласок". Вучні ПШ н-р 2 у Гайнаўцы паставілі „Конскую кніжку". Тэатральная група з гайнаўскай школы № 3, з якой працуе сп. Валянціна Дмітрук, паставіла спектакль „Лёс і ўдача". З бельскай „тройкі" было таксама дзве пастаўноўкі „Гэты цуд завецца кніга" і „Хто вінаваты". А вучні ПШ у Дубічах-Царкоўных зайгралі ў дзвюх п'есах — „Зямля" і „Несцерка".

### Асаблівасці

сёлетняга агляду — гэта несумненна пошукі новага, жывога рэпертуару. Як у выпадку Ласінкі. Сцэнарый лёгкі і жартаўлівы, вельмі адпаведны для малодшых дзетак, напісала працаўніца культурнай установы, спадарыня Анна Станько. Трэба дабавіць, што ў Ласінцы тэма пабудовы новай школы займае самае важнае месца ў жыцці мясцовага грамадства. Відаць таму дзеткі так добра зайгралі свае ролі.

— Рыхтаваліся мы ў апошняй хвіліне. Да таго захварэў адзін акцёр і трэба было дзень перад выступленнем мяняць сцэнарый, — кажа Анна Станько.

Пра недахоп сцэнічнага рэпертуару на беларускай мове ведаюць і гавораць усе настаўнікі.

— Дзеткам патрэбны сучасныя тэмы. Як доўга можна паўтараць тыя самыя творы. На жаль, няма бліскучага сцэнічнага матэрыялу для дзяцей, — наракалі многія.

Нягледзячы на цяжкасці, можна гаварыць пра адраджэнне беларускага тэатра. Як сказаў ва ўступным слове адзін з арганізатараў — зацікаўленне сцэнічнай формай узрасло ў чатыры разы. Здзіўляе толькі адно, што гэтага зацікаўлення не праявілі вучні з Кляшчэль. Толькі адзінкі пацікавіліся атракцыйным аглядам. А гэтае мерапрыемства было наладжана не толькі для саміх удзельнікаў, але і для школьнікаў з Кляшчэль. Гонар кляшчэлеўскіх дзетак ратавалі сімпатычныя вучаніцы IV класа Бася Ваўрусевіч і Кася Ігнацюк. Дзяўчаткі вялі ўвесь агляд а дапамагала ім настаўніца беларускай мовы Ірэна Тамашук. З боку дырэкцыі і настаўнікаў гэтае школы адчувалася вялікая гасціннасць і цёплы прыём.

Такія выступленні надоўга астануцца ў нашых сэрцах і памяці, — сказаў дырэктар ПШ у Кляшчэлях Юрый Якубоўскі.



*Дзяўчаты з Чыжоў...*


*...і са Старога Корніна.*

### Узнагароджаныя

Конкурсная камісія ў саставе:

— старшыня — Тамара Русачык (візітатар па беларускай мове),

— Яніна Плютовіч (тэатральны інструктар),

— Мікола Гайдук (журналіст і пісьменнік),

— Валянціна Дзмітрук (настаўніца з Сакоў)

вызначылі пераможцаў:

**Гран-пры сёлетняга агляду атрымала тэатральная група са школы № 3 з Гайнаўкі.**

Дзеткі паказалі п'есу **„Лёс і ўдача"**.

Два першыя месцы ў катэгорыі лялечнага тэатра занялі:

— Дом культуры ў Рыбалах — „Жураўлінае пяро" і Дом культуры ў Гайнаўцы — „Пшанічны каласок".

У катэгорыі тэатра жывога плана былі ўзнагароджаны:

Першае месца ПШ у Ласінцы — „Як звяры школу будавалі",

Тры другія месцы: — ПШ у Чыжах — „Ой прадай бабуленька бычка", ПШ № 3 у Бельску-Падляшскім — „Гэты цуд завецца кніга", ПШ у Дубінах — „Віфлеемская ноч".

III месца — ПШ у Рыбалах — „Пінская шляхта".

Камісія ўзнагародзіла настаўнікаў і інструктараў тэатраў:

— Лідзію Мартынюк з рыбалаўскага Дома культуры,

— Надзею Гаган з ПШ у Дубінах,

— Анну Бжазоўскую з ПШ № 3 у Бельску-Падляшскім,

— Галіну Трашчотка з ПШ у Дубічах Царкоўных.

— Нашай мэтай з'яўляецца пашырэнне і развіццё роднай беларускай мовы, — гаварылі арганізатары.

Тэатр, вядома, вельмі ўнушальна ўздзейнічае на дзяцей і моладзь. І што галоўнае ў сённяшні час — лагодзіць агрэсію! Тады няхай шкадуюць тыя, што не прысутнічалі на аглядзе беларускіх школьных тэатраў!

**Ганна Кандрацюк**
*Фота аўтара*


*Дзеткі з Ласінкі ставяць п'есу „Як звяры школу будавалі".*


*Агляд вялі Бася Ваўрусевіч і Кася Ігнацюк. З дзяўчаткамі — Ірэна Тамашук, настаўніца беларускай мовы ў Кляшчэлях.*

# Тры дні для Пётра Шпаковіча

Калі б жыў, у наступным годзе святкаваў бы сваё 70-годдзе. На жаль, Пятра Шпаковіча здаўна ўжо няма сярод жывых. Памёр ён 4 жніўня 1981 г. у гайнаўскай бальніцы, у выніку аўтамабільнай аварыі на шашы Белавежа—Гайнаўка. Быў ён адным са шматлікіх ураджэнцаў Белавежы, якія дзякуючы свайму таленту і працы дабіліся таго, што іх прозвішча набыло паўсюдную вядомасць у Польшчы.

Пётр Шпаковіч праславіўся як мастак і рэжысёр мультыплікацыйных фільмаў для дзяцей і дарослых. З нагоды 400-годдзя Белавежы мясцовы асяродак культуры ў супрацоўніцтве са Студыяй фільмавых мініяцюр у Варшаве наладжвае ў днях 16—18 мая г.г. рэтраспектыўны перагляд яго творчасці. З такой ініцыятывай выступіў дырэктар БАКу Лех Навацкі, па прафесіі таксама мастак (графік).

Пётр Шпаковіч нарадзіўся 1 кастрычніка 1928 г. Закончыў Акадэмію мастацтваў у Варшаве. У 1956 г. пачаў працаваць у тамашнім аддзеле бельскабяльскай Студыі мультыплікацыйных фільмаў — пачаткова як мультыплікатар, потым як асістэнт рэжысёра. Пасля пераўтварэння Варшаўскага аддзела ў самастойную Студыю фільмавых мініяцюр, дэбютаваў у 1959 г. фільмам „Вясковыя карцінкі". Прымяніў у ім наватарскую ў той час тэхніку ажыўленага жывапісу. Гэты фільм адчыніў адначасова асноўную плынь творчасці Шпаковіча — жывапісны фільм. Частым лейтматывам чарговых прац стане натура і чалавек у ёй, затым усе адмоўныя паслядоўнасці гэтага сужыцця.

П. Шпаковіч паспеў рэалізаваць аж 49 фільмаў, з якіх адзін „Увага, небяспека" складаецца з сямі серый. Апрача жывапісных, выканаў пару лялечных і камбінаваных фільмаў. Шматлікія фільмы белавежскага мастака ўзнагароджваліся на міжнародных і краёвых фестывалях і конкурсах. Напрыклад фільм „Двое" атрымаў найвышэйшую ўзнагароду „Залатую ракавіну" на фестывалі ў Сан-Себасцьян (у 1975 г.). Узнагароджаны былі таксама фільмы „Атлантыда" (Тэмпорэ, 1973 г.) і „Мімоза" (Салерна, 1974 г.). Гэты апошні фільм атрымаў вылучэнне таксама ў Мельбурне (1975 г.). У сваю чаргу фільму „Удар" Міністэрства культуры і мастацтва прысвоіла ў 1979 г. спецыяльную ўзнагароду. У познаньскіх конкурсах узнагароджаны фільмы „Мяцеліца" (у 1977 г.), „Буслінае гняздо" (у 1979 г.) і „Ноч" (у 1981 г.).

Асістэнт дырэктара СФМ у Варшаве, Ганна Абгаровіч, так успамінае П. Шпаковіча: „Быў чалавекам незвычайна скромным і сумленным. Мастацтву аддаўся ўсім сэрцам, кожную свабодную хвіліну праводзіў з палітрай, ля мальберта. Смерць дасягнула яго ў момант, калі рыхтаваў свой чарговы жывапісны фільм, які меў быць падсумаваннем яго працы ў жывапіснай мультыплікацыі — галіне, у якой астанецца неперараўзыдзеным маэстра".

Рэтраспектыва фільмаў П. Шпаковіча, якая будзе праходзіць у двух частках (фільмы для дзяцей і фільмы для дарослых), папярэдзіць ускладанне кветак на яго магіле на белавежскім могільніку. У час мерапрыемства можна будзе паглядзець і выставку ранейшых прац мастака, пераважна акварэль. Для дзяцей рыхтуецца малая фільмавая акадэмія, падчас якой рэалізатары са Студыі фільмавых мініяцюр раскажуць і пакажуць, як узнікаюць мультыплікацыйныя фільмы. Сярод гасцей агляду будуць сябры П. Шпаковіча, якія, мабыць, наблізяць асобу выдатнага белавежца.

**Пётр Байко**

# НАШЫ КАРАНІ

## С. Сафія Слуцкая

У часы лютавання на беларускіх і ўкраінскіх землях насаджальніка уніі мітрапаліта Іпація Пацея і ягоных паплечнікаў, калі ўсе, хто вызнаваў веру праваслаўную, праследаваліся як найгоршыя злачынцы, старажытнае беларускае Слуцкае княства стала збаўчым востравам для праваслаўных.

Паклапацілася пра тое княгіня Сафія Слуцкая. Нарадзілася яна 1 мая 1585 года ў праваслаўнай сям'і Юрыя і Кацярыны Алелькаў, у патомным родзе князёў слуцкіх, які продкам быў вялікі князь літоўскі Аляксей-Альгерд. Спачатку маці, а потым бацька князёўны Сафіі памерлі, калі ёй было ўсяго годзік жыцця. Круглай сіратою заняліся блізкія сваякі, Хадкевічы, пляменнікі вядомага ўжо нам, славутага заблудаўскага ўладальніка Рыгора Хадкевіча. Яны ў той час ужо былі каталікамі, і лёс слуцкай князёўны іх займаў перш за ўсё таму, што яна стала спадчынніцай аграмаднай маёмасці. Апекуны яе коштам сплачвалі свае даўгі Радзівілам. А калі не хапіла на сплату незлічоных даходаў са Слуцкага княства, засваталі малалетнюю дзіцятка-сірату за князя Януша Радзівіла і такім чынам уладкавалі сваю задокжанасць.

Хоць князёўна Сафія ішла да шлюбу 14-гадовым дзяўчом пад прымусам, яна ўсё ж дамагалася захавання свае праваслаўнае веры, і вянчанне яе з Янушам адбылося ў царкве ў Бярэсці. Князь Януш часта прападаў на паляваннях ды гульбішчах, а княгіня Сафія жыла ў адзіноце ў Слуцку. Увесь час праводзіла ў малітве і паломніцтвах да тых праваслаўных святыняў у яе княстве і па ўсёй Беларусі, дзе адбываліся храмавыя ўрачыстыя набажэнствы. Яна вельмі шанавала і любіла манашак, акружалася імі, часта прабывала ў іхніх манастырах. Відаць, калі б не прымусовае замуства, яна прыняла б манаскі пострыг і стала б Хрыстовай нявестай. Князёўна актыўна дзейнічала ў праваслаўным слуцкім Праабражэнскім брацтве, будавала і забяспечвала ва ўсё неабходнае многія цэрквы і манастыры, успамагала матэрыяльна і падтрымлівала духова праваслаўнае духавенства і ўсіх праваслаўных, якіх праследавалі уніяты і другія іншаверцы. Разам з мужам, які стаў пратэстантам-кальвіністам, яны дамагаліся ад караля прывілеі пра забарону ў іх уладаннях сілком прымушаць праваслаўных да пераходу ва унію. Такім чынам іхнія немалыя маёмасці сталі сапраўдным аазісам праваслаўя, куды ўцякалі і праваслаўнае духавенства, і свецкія праваслаўныя дзеячы з усяе Беларусі і Украіны і дзе яны знаходзілі надзейны прытулак. Спадчыннікі Сафіі і Януша свята захоўвалі гэтую традыцыю, пад яе падлягала і Заблудаўская зямля, якая таксама стала ўласнасцю наследнікаў князя Януша Радзівіла.

Праведная Сафія, княгіня Слуцкая закончыла сабой праваслаўны княжацкі род Алелькавічаў, не пакінуўшы пасля сябе патомства. Яна памерла на 31 годзе жыцця ў 1617 годзе падчас нараджэння нежывой дачкі. Праваслаўная царква кананізавала Сафію Слуцкую, памяць яе ўшаноўваем 19 сакавіка па старому, або 1 красавіка па новаму стылю. Цудадзейныя мошчы святой Сафіі цяпер знаходзяцца ў Мінскім Свята-Духавым кафедральным саборы. Наведваючы сталіцу Беларусі, не забудзьма ім пакланіцца.

**Мікола Гайдук**

**Васіль Сакоўскі**

# З мінулага маёй сям'і, вёскі і мясцовасці

***(працяг; пачатак у 18 н-ры за 1996 г.)***

Час Народнай Польшчы мне ўжо з „аўтопсіі", як кажуць, знаёмы. Магу пра яго, як пра родную жонку, расказваць і расказваць. Як жа ж зрэшты можа быць і інакш, калі на гэты час прыпала маё юнацтва і дарослае жыццё аж да старасці. У час Народнай Польшчы здабываў я першыя азы сялянскага жыцця, здабываў адукацыю, прафесію і вучыўся ўсялякім іншым жыццёвым прамудрасцям. Потым, ужо як настаўнік сярэдняй школы, па меры маёй адукаванасці і здольнасцяў, набытыя веды і прамудрасці стараўся пераказваць маладым. А як адзіны мужчынскі прадстаўнік новага пакалення Сакоўскіх, пераймаў памаленьку ад бацькі родавую эстафету...

Што я магу сказаць пра Народную Польшчу? Магу сказаць тое, што была яна, па-мойму, цікавай і своеасаблівай дзяржавай. Не была яна ні капіталістычнай, ні сацыялістычнай, ні тым больш, савецкай. І ў тым, што не была яна сацыялістычнай ці савецкай, было больш заслуг нашых вярхоў, як нізоў. Нашы дзяржаўныя камуністычныя мужы проста не стараліся перабудаваць Польшчу на савецкі лад і „подобие". А калі ўжо і мусілі штосьці зрабіць пасавецку, то рабілі гэта нязгодна са сваёй нацыянальнай рысай „быць заўсёды першымі", а рабілі самымі апошнімі з усіх сацыялістычных краін і без энтузіязму, абы-як, адным словам.

Савецкае кіраўніцтва, канешне, дасканала ведала аб гэтым і не любіла Польшчы і польскага кіраўніцтва за іх неруплівасць і розныя гаспадарчыя і палітычныя адхіленні ад савецкай нормы ды розныя навінкі.

Будучы ад 1960 года студэнтам Мінскага дзяржаўнага універсітэта, мне не раз даводзілася выслухоўваць папрокаў савецкіх студэнтаў і выкладчыкаў у свой адрас за тое, што „ваша Польша — это самое слабое и ненадёжное звено социализма". Як „самое прочное и надёжное звено социализма" ставілі ў прыклад Чэхаславакію.

Я, канешне, не надта чырванеў ад сораму за сваё слабое звяно, а прабаваў даказаць ім, што не маюць рацыі, бо і мая Польшча з'яўляецца даволі моцным і надзейным звяном. Мае аргументы, аднак, больш смяшылі, як пераконвалі іх, і яны, канешне, мелі рацыю.

Па сталінскіх і савецкіх мерках нават нашы першыя сакратары партыі, да Ярузельскага ўключна, больш надаваліся на Калыму, як быць шэфамі сацыялістычнай дзяржавы. Ратаваў іх толькі сталінскі і савецкі плюралізм. Лічылі ў Маскве, што пабрыкаюць яны, пабрыкаюць і змірацца-зжывуцца. А на худы канец меліся на іх і сілавыя аргументы...

Што магу сказаць я пра свой асабісты жыццёвы старт і свае адносіны да Народнай Польшчы?

Магу сказаць я тое, што кар'еры не зрабіў і багацця не нажыў. Як пачынаў працу бельферам сярэдняй школы, так і канчаю ім. Моцна крыўдзіла мяне, што нейк падазрона, з недаверам глядзела на мяне начальства і нават сябры, бо я да партыі ніколі не належаў. Згаджаюся таксама, што часамі вельмі нялёгка жылося тады, але што быў гэта страчаны час — як некаторыя прабуюць даказваць цяпер — ніяк згадзіцца не магу і каменем у Народную Польшчу не кіну.

Найправільней было б сказаць, памойму, што пры Народнай Польшчы было як многа непатрэбшчыны, дурноты, шуміхі і паказухі, так нямала і цікавых, разумных і гуманных законаў, развязак і мерапрыемстваў. Карацей кажучы, у Народнай Польшчы легальна і законна сужыло з сабой дабро і зло, разумнасць і дурнота.

І так напрыклад, Народная Польшча была суцэльным пляцам будовы. Будавалася ў нас многа, даволі добра, прыгожа, функцыянальна. І гэта канешне добра. Але хто шанаваў ужо збудаванае, выпрацаванае, здабытае, калі яно было не прыватнае, а так званае грамадскае, дзяржаўнае?! Нішчылі, бралі, кралі, раскідалі, прапівалі і вінаватых у асноўным не было.

Не цанілася салідная, прафесійная праца і стваральнікі яе, а цаніліся людзі, якія на кожную нагоду мелі поўны рот патрыятычных цытат ды лозунгаў. Хто меў сякую-такую галаву на плячах і ахвоту, мог без большых клопатаў здабыць адукацыю і амаль любую прафесію, але ўжо прафесіянальную кар'еру рабілі ў асноўным не самыя выдатныя і прынцыповыя людзі, а хутчэй за ўсё недавучаныя хітруны і кар'ерысты.

Хаця высокія дзяржаўныя пасады пачынала займаць учарашняя галота, але ўжо заняўшы іх, гэтая галота мела ўсе асновы і права адчуваць і весці сябе, як удзельныя князі ў сваіх вотчынах. Дайшло да таго, што сакратар партыі мог ганяцца па ўсёй краіне на службовай машыне ў пошуках доказаў свайго шляхецкага паходжання, бо пачалі ў нас больш высока цаніцца пан з пана, як пан з рабочага ці мужыка. Калі ж ужо і камуністу ў камуністычнай дзяржаве пачало прыдаваць больш прэстыжнасці яго шляхецкае паходжанне, то ці ж можам уявіць сабе штосьці яшчэ больш парадаксальнае?!

Хаця і не надта цаніліся тады навука і вучоныя людзі, але была велізарная мода на навуку. Каму толькі не лень, здабываў веды, бо дзяржаўная палітыка спрыяла і дапамагала такім. Больш аднак цанілася сама паперкадыплом, як набытыя веды. Мноства пісалася таксама навуковых прац. Нярэдка магістэрскія дысертацыі былі на ўзроўні доктарскіх. І гэта, па-мойму, правільна і добра. Але бывала, на жаль, што і за абы-якія працы давалі навуковыя ступені. Пачалі паяўляцца проста камічныя тэмы навуковых прац. Ці ж можа быць штосьці яшчэ больш смешнае, як нашумеўшая ўжо тады доктарская дысертацыя на тэму: „Wpływ gry w palanta na rozwój ruchu robotniczego w Polsce"? Аднак у тагачасных публічных дыскусіях на такія тэмы, афіцыйная „вырочня" амаль заўсёды трымала бок „палянта".

***(працяг будзе)***

## Новыя вершы

Барыс Руско

### Нетры

У глыбіні ўсё драбніца,
і драбніца — усё.
І нічога не трэба кеміць,
І нічога не трэба бачыць,
адно верыць,
што існаванне,
як губка,
ўвабрала ў сябе
святло.

### Вера

Веру ў Моц,
вялікую
і недасканалую.
Ласка зябне
на ільдзе,
а любоў блудзіць
на бязмежжы пакуты,
а святло
на задворках душы,
а сумленне
на папялішчы.
І ёсць на зямлі жыццё,
і змаганне
дабра і зла,
а планета мая
ў крыві,
а Усемагутны
ў новай прасторы,
а розум
у путах,
і гараць свечкі
на магілах
Праведных.

# Моладзь малілася на Грабарцы

18—20 красавіка г.г. вучні апошніх класаў сярэдніх школ маліліся на Грабарцы. Паломніцтва традыцыйна ўжо наладзіла Брацтва праваслаўнай моладзі. Удзельнічала за пяцьдзесят асоб з Бельска-Падляшскага, Гайнаўкі, Саколкі, Беластока. Разам з моладдзю былі святары: аа. Лявонцій Тафілюк, Фёдар Верамяюк і Васіль Саўчук.

— Мы тут не толькі молімся, — кажа Анеля Місеюк з бельскага белліцэя. — У часе такога паломніцтва гаворым пра свае праблемы, клопаты, свае цяжкасці. Паломнікі дапамагалі таксама манашкам прыбіраць Святую Гару, наводзілі веснавыя парадкі. Дзяўчаты рыхтавалі посную яду.

— Пасля такой сустрэчы чалавек набірае сілы, — кажуць дзяўчаты.

Вядома, перад імі самы складаны перыяд, неўзабаве экзамен на атэстат сталасці, затым уступныя экзамены ў вышэйшыя навучальныя ўстановы.

— А ўсё ў руках Бога, — кажа ліцэіст Тамаш Лукашук з бельскага белліцэя.

**Ганна Кандрацюк**
*Фота аўтара*



# „Касі каса пакуль раса”

Надоечы мой сябра з Беларусі папрасіў мяне купіць яму касу. Сам ён навуковец і паколькі на зарплату, якую ён атрымоўвае, пражыць немагчыма, ён дапамагае свайму бацьку на гаспадарцы. Яна ў іх невялічкая: адна кароўка, некалькі парасят, але яе дастаткова, каб пракарміцца бацькам і дапамагчы сыну ў горадзе.

Мяне гэтая просьба задзівіла, бо як мне вядома, ад некалькіх гадоў „турысты” з-за ўсходняй мяжы прывозілі і прадавалі на базарах у Беластоку, Бельску-Падляшскім, Гайнаўцы ці Саколцы не толькі адзін спірт і папяросы. Гаспадары маглі на базары купіць запчасткі для трактароў, граблі і таксама косы. Дык чаму ён хоча купіць касу тут, на Беласточчыне, калі на Беларусі яна таннейшая? Аказваецца, што іхнія косы пачалі рабіць з вельмі кепскай сталі. Летась, калі бацька майго сябры абкошваў роў, паламаў дзве касы і трэскаліся яны быццам шкло, калі папаліся на невялікі камень.

Я сам не занадта знаюся на косах, хаця закончыў Тэхнікум механізацыі сельскай гаспадаркі. Мяне вучылі аб снапавязалках, камбайнах, а ў гэтых машынах, як вядома, каса зусім другая.

Пайшоў я параіцца ў свайго дзеда, які цяпер ужо на пенсіі, але цэлае сваё жыццё амаль штодзённа меў дачыненне да гэтай прылады. Ён пачаў мне расказваць як гэта было калісь.

У дзедава дзяцінства касой касілі толькі траву і ніхто не думаў жаць ёю збожжа. Людзі казалі, што ад касы многа зерня застаецца на полі. І гэта праўда, бо яшчэ калі косіш жыта, то яно высокае і каса не дастае да каласоў і іх не збівае, але ў выпадку аўса ці ячменю, то зусім інакш — многа яго заставалася на полі. Таму людзі да вайны жалі сярпамі. Гэта патрабавала многа часу, дык жніво цягнулася вельмі доўга. Жаць касой людзі ў дзедавай вёсцы пачалі пасля вайны, і то не ўсе адразу. Некаторыя насміхаліся з іншых, што жнуць касой, а не сярпом. Аб нечым падобным можна прачытаць і ў кніжцы „Канапелька” польскага пісьменніка Эдварда Рэдлінскага. Касу ў шасцідзесятыя гады выцяснілa касілка, але не зусім, бо ёсць людзі, якія па сённяшні дзень карыстаюцца касою. Яна пасля вайны каштавала каля цэнтнера бульбы, можна было яе купіць у краме альбо заказаць у каваля. Дзед сказаў, што каса з крамы была лепшая, хаця найлепшыя сярпы рабіў каваль у Бандарах. Да кашэння збожжа трэба было зрабіць спецыяльны каблук з моцнага дроту, які падтрымліваў кошанае збожжа. Гэты каблук быў абрублены палатном. Кассё рабілі з яліны, а „кулькі” — ручкі з дубіны, ліпы. Яны маглі быць замацаваны настала і маглі быць падвойныя, мацаваныя шнурком — рэгуляваныя. Рэгуляваныя былі лепшыя, бо кожны касец мог такую ручку дапасаваць да сваіх магчымасцей. За дзень можна было скасіць сорак сотак збожжа, а травы нават паўгектара. Касіць траву было лягчэй, але гэта трэба было рабіць з самага рання, калі была на ёй раса. Людзі казалі: „Касі каса, пакуль раса”. Жыта вырастае большае за траву і калі яго косіш, трэба адвярнуць, а гэта патрабуе большай сілы. Калі хтосьці меў калёнію, то касец мог зайсці то з аднаго, то з другога боку, так як збожжа пахіленае — казалі „касі з коласам, а не пад колас”, але пры цераспалосіцы не было такой магчымасці. Касілі не пры самай зямлі, каб не папасці на камень, але і так вастрыць касу трэба было вельмі часта, бо на збожжы асаджваўся пясок, пыл і гэта тупіла вастрыё. Вастрылі брускамі (асёлкамі). Перад выхадам у поле трэба было выклепаць касу на вострай бабцы. Гэта патрабавала пільнасці і дакладнасці, але давала лепшы эфект. Кляпаўшы касу на тупой бабцы можна было панарабляць зубцоў і пакуль бруском таго не выгладзіш, то каса не косіць, а проста збівае і ломіць збожжа ці траву.

Скошанае збожжа ставілі ў ляшкі і яно так сохла. Потым вазілі ў клуню, а там ужо цэлую зіму малацілі цэпам. Пазней цэп заступіла машына — малатарня.

На другі дзень мы пайшлі купляць касу нумар шэсць. Нумар касы абазначае яе даўжыню — чым большы нумар, тым большая каса. Аб'ездзілі цэлы Беласток, але нідзе касы не дасталі. Даведаліся толькі, што могуць яны паказацца ў чэрвені — перад сезонам. Прадавец, які даў нам гэту інфармацыю, пажартаваў з нас і параіў купіць электрычную або маторную касілку для газонаў. Дык у ваяводскім горадзе не можна купіць касы — колішняй і час ад часу цяперашняй прылады амаль штодзённага жыцця кожнага селяніна.

**Юрка Шульскі**

# Нашы Крэсы

Ласіняны, гэта вёска, якая распаложана на самым усходзе нашай „усходняй сцяны”. Не даходзіць сюды ніякая рэгулярная камунікацыя; добра, што хаця пракладзена жвіроўка з Крушынян. З'явіўся я тутака ў халодны сёлетняга красавіка дзень. На першым панадворку яшчэ не надта старое сужонства, Ліза і Веніямін Слясарчыкі. Зараз жа пасля кароткага знаёмства запрашаюць мяне дахаты. Карыстаюся запрашэннем, бо пры такім надвор'і, калі і зуб на зуб не пападае, цяжка і дагаварыцца было б.

Цяпер у вёсцы пражывае дваццаць душ. Наймалодшаму жыхару Ласінян 55 гадоў; значыць нарадзіўся ён яшчэ ў вайну. Народжаных пры „камуне” няма ні душы. У маіх гаспадароў было чацвёра дзяцей, усе цяперака ў Беластоку, усе маюць свае самаходы і згодна наведваюць сваіх бацькоў. На канікулы ўнукі прыязджаюць, лепшага месца на той час яны сабе не ўяўляюць: лес тут, і рэчка — Свіслач. Праўда, у рэчцы можна купацца, але на другі бераг выходзіць нельга, гэта ўжо „заграніца”.

Слясарчыкі гаспадараць яшчэ на зямельцы; апрача іхнай у вёсцы яшчэ тры гаспадаркі. Сельскагаспадарчых машын нямнога, косяць, напрыклад, косамі і касяркамі. Трымаюць курэй, у трох гаспадароў ёсць каровы — малако возяць калейкаю ў Крушыняны, апрача іх возіць яшчэ адзін з Рудакоў. Каб не тое малако, — кажуць — то і на хлеб не было б. Вось, напрыклад, калісь у Вераб'ях *млечарня* была, але калі яе раскідалі, дык і людзі кароў папрадавалі.

Калісь у вёсцы стаяла 68 хатаў, сёння мо толькі трыццаць, ды і палова з тых — пустыя, а ў пяці толькі адзінокія жывуць. Пытаю, хто імі апякуецца. Аказваецца, што апека тут непатрэбная, усе яшчэ ў сілах жыць самастойна. Ну і дзеці з Беластока калі трэба дапамогуць. Раз у тыдзень, у сераду, з Крынак прыязджае самаход з таварам. Спачатку было многа прыватных, але цяперака слаба з імі. Калі хто патрабуе часцей хлеб купіць, можа схадзіць у Крушыняны, там крама ёсць.

Пакуль у Крынках быў ПГР, то і зямлю аабраблялі, а цяпер толькі „Валэнсава збожжа” на палях красуецца. Ужо тую зямлю надлясніцтва бярэ, аблясяць; пушча тут будзе. Ды і цяпер грыбоў тут удосталь, самаходамі прыязджаюць: каго тут няма! Нават з Варшавы аўтобусы едуць. Бо каб яны не збіралі, дык мы ж тых грыбоў нават вазамі не вывазілі б, кажуць вяскоўцы. І зарабілі людзі. На *скуп* не трэба было насіць, прыязджалі самаходамі і забіралі з хатаў, нават і пад лесам стаялі. Некаторыя скупшчыкі прывозілі ўжо нават гарэлку пад лес — тавар за тавар — бо ж некаторыя грыбнікі толькі і дзеля яе збіралі.

— А ведаеце, — прызнаўся на канец вельмі сімпатычнай размовы мой гаспадар, — я „Ніву” чытаў, але кінуў, недзе год таму...

Заінтрыгавала мяне такая катэгарычнасць: не „перастаў”, але „кінуў”. Пытаю тады пра прычыну такога адчайнага акту.

— Бо вы ўсё дрэнна пра прэзідэнта Беларусі Лукашэнку пішаце!

— Не выпадае нам інакш, — пачаў апраўдвацца я, — бо ж ён ліквідуе праявы адраджэння беларускасці...

— А каб той там Шушкевіч яшчэ нейкія тры гады пабыў, тады Беларусі ўжо не было б, толькі Крэсы!

**Аляксандр Вярбіцкі**

# Бабы з крыжамі

Вясковыя кабеты — адна перад другой — расказваюць мне, як гэта было. Сядзімо ў памяшканні Ваяводскага саюза сялян, гурткоў і сельскагаспадарчых арганізацый на вуліцы Варшаўскай 43, дзе толькі што на пасяджэнні Ваяводскай рады саюза ім, дзяячкам КГВ, давалі кветкі, віншуючы з высокімі ўзнагародамі — Кавалерскімі і Сярэбранымі крыжамі, — уручанымі 19 сакавіка 1997 года самім прэзідэнтам А. Квасьнеўскім у Варшаве.

**Валянціна Адамская**, старшыня Ваяводскай рады Гурткоў вясковых гаспадынь (родам з Орлі, замужам у Новым Александрове, што ля Фаст, пад Беластокам) успамінае:

— Падыходжу я ў сваім строі, дыгнула, а прэзідэнт кажа: „Мы, здаецца, ужо сустракаліся?!" А так, у аўтобусе, кажу. Як мы былі тут на экскурсіі, то Вы прыйшлі да нас. „А-а-а, дык гэта Вы спявалі тады мне?" А як жа, кажу:

*Każda mądra Polka*
*Głosuje na Olka!*

У нас, — дадае В. Адамская, — пасля дамагаліся, каб спавядацца, хто на каго галасаваў, а я кажу: не!

Жанчыны расказваюць і іх вочы аж свецяцца. Сёння іх тут, узнагароджаных, пяць асоб. Акрамя Валянціны Адамскай, якая атрымала Сярэбраны крыж заслугі, такімі ж ордэнамі ўдастоены **Яўгенія Шумская** з Райска Бельскай гміны ды **Анна Галіцкая** з Чорнай Всі Касцельнай, што ў гміне Чорная Беластоцкая. Дзве іншыя жанчыны — **Вольга Іванюк** з Плютыч Бельскай гміны і **Альфрэда Мітраш** з Краснага гміны Янаў — узнагароджаны яшчэ вышэйшай дзяржаўнай узнагародай: Кавалерскім крыжам ордэна Адраджэння Польшчы.

Вольга Іванюк вядзе ў Плютычах разам з мужам дзевяцігектарную гаспадарку. Ад 1960 года працуе ў Гуртку вясковых гаспадынь, увесь час яго старшынёю. Ужо другі раз вёска выбрала яе солтысам. Цяпер яна солтыс і ў вёсцы Яцэвічы. Ужо дзве кадэнцыі яна — радная Рады гміны ў Бельску-Падляшскім, а ў апошні час з'яўляецца там старшынёю Рэвізійнай камісіі. Але гэта яшчэ не ўсё. Прымае ўдзел у працах наглядальных рад Бельскай спулдзельчай малачарні, Спулдзельчага банка, СКРа. Многа ангажуецца яна ў працу Ваяводскай рады КГВ у Беластоку.

— Пытаеце, ці веру я, што заслужыла гэтай высокай узнагароды? Вось і прэзідэнт Квасьнеўскі сцвердзіў, што бадай заслужыла, калі яе далі. А я запыталася, ці варта было аж такую ўзнагароду даваць, дык ён кажа, што я сваёй працай зарабіла на гэты крыж.

Цяжка людзям акрэсліць, чым яны заслужылі, што іх ацанілі так высока. Яўгенія Шумская задумваецца:

— Ці зарабіла я на ўзнагароду? Усе гады працавала ў клубе „Рух" у Райску, была старшынёю Гуртка вясковых гаспадынь. Дваццаць гадоў працавала ў Доме культуры і столькі ж спявала ў калектыве „Згодныя макі". Калі мы былі ў прэзідэнта, дык ён запытаўся ў мяне, якую зямлю я прэзентую, а я кажу, што сплаканую ад крыўды вёску Райск на Беластоцкай зямлі і што ў нас усе на яго галасавалі. Прэзідэнт добра ведаў пра трагедыю нашай вёскі, якую перажыла яна ў гады нямецкай акупацыі.



*Узнагароджаныя Вольга Іванюк з Плютыч (справа) і Яўгенія Шумская з Райска.*

Кавалерскі крыж быў мілай неспадзеўкай для Альфрэды Мітраш з Краснага. Яна ж ужо рантыстка! Але, відаць, пра яе заслугі добра памяталі ў Ваяводскім саюзе. Ад 1966 да 1995 года была яна без перапынку старшынёю КГВ у Красным, тры кадэнцыі была раднай Рады гміны ў Янаве. У сваёй грамадскай працы найбольш увагі прысвячала і прысвячае самаадукацыі сялянак, мадэрнізацыі хатняй гаспадаркі, адукацыі сялянскіх дзяцей. Пры падставовай школе ў іх ёсць інструктар, які вучыць дзяцей ужо ад малога ткаць. Янаўскія ж дзьвюхасноўныя тканіны слаўныя на ўвесь свет. Вядуцца розныя заняткі. „Мой унук (ён у чацвёртым класе), — кажа яна, — шахматыст, ездзіць у Беласток на спаборніцтвы".

Амаль усюды, дзе ёсць актыўныя кабеты, ёсць і спявачыя калектывы. Вось у Красным ёсць калектыў „Янаванка", у Новым Александрове іх аж два: „Навічанкі" і „Нарвяне" (Валянціна Адамская складае тэксты), ёсць калектыў і ў Чорнай Всі, падкрэслівае Анна Галіцкая.

Шмат смутнейшым было б жыццё на вёсцы, калі б не было там такіх актыўных, поўных энергіі і працавітых жанчын, з якімі ўдалося мне якраз сустрэцца.

**Ада Чачуга**
*Фота аўтара*

# У нас злодзей ні радзіўсэ

**— Яшчэ дзесяць-пятнаццаць гадоў таму ніхто не вешаў замка на хаце, калі дома нікога не было, — кажуць людзі ў ваколіцах Семяноўкі.**

Вешаў чалавек якую замычку, от, так больш для вока, каб ведалі, хто меў якую справу, што гаспадара няма дома. Нават на цвік які, на зашчапку. Хоць вёскі ў пушчы, то хіба звер не такі страшны, а людзі наўкола свае. А калі ўжо што прапала, то найхутчэй вядома было, што зрабіў гэта той, хто ўтрымацца не мог, хто лёгкі з натуры на такую справу. А сапраўдны злодзей жа ж сярод сваіх не крадзе.

— Ні радзілісэ ў нас зладзеі, а калі што і было, то ні ў нас тут кралі. Нічого ні ведаю. Адразу пазнаць было, калі хто да нас завітаў, што ні з нашае грамады чы гміны, бо крыху змахваў на матана, або чыстага ліцьвіна, або польшчыўя. Па кроках пазнаеш, што ні наш ідзе. І сабакі добрэ чулі.

— Цяпэр, калі гаспадарэ старые, то і сабакі такіе ж самые! На рэнту ўсіх адправіць! Вы толькі ні кажэце, што ў нашуй вёсцы зладзеяў ні баяццэ, бо зарэз прыдут і абкрадут. А ў мане е пралька аўтаматычна.

— О, такое то цяжко вынесьці...

Праўда, у гэтай ваколіцы падазрона глядзелі на *шпікулянта*. Але той дзёр шкуру яўна, на тое ён і шукаў нажывы. Каб красці ў белы дзень наважыўся толькі пан К. (калі было гэта ягонае сапраўднае прозвішча), які ў канцы сямідзесятых прапанаваў разам з сяброўкай палагодзіць справу з купляй трактароў. Па-знаёмству абяцаў дапамогу, узяў у людзей авансам шмат грошай. Прывезлі яго добрыя людзі з Гарадка. Ім таксама добра хіба закруціў у галаве, людзям, здаеццца, разумным і сумленным. Віталі, частавалі яго, як роднага брата. Знік як камфора. Пасля ва „Успулчэснай" прачыталі, што судзілі яго. Ну, не наш чалавек быў, кажуць людзі. Крыху бы з-пад Бельска, але гаворкі меў такія перамешаныя, што ні ў зуб не поймеш, што за адзін. Каб адзін ён прыехаў, не паклікаўся на гарадоцкіх знаёмых, то нічога ў яго не атрымалася б, яшчэ цяпер мяркуюць людзі, хоць амаль у кожнага свой трактар ёсць.

У гэтай ваколіцы, усё ж, ёсць яшчэ крыху гаспадароў, хоць панаязджала турыстаў і аматараў паразглядацца. Народу шмат, але адзінокаму страшнавата. Усё чуеш пра тыя банды...

— У каждуй вёсцы тэлефон, калі што, можно пэрці да солтыса. І ў некаторых іншых е апараты, але з вэчара і ноччу ніяк ні дазвонішсэ, бо тэлефаністкі ў Сіманоўцы німа.

За „бяспекай", каб вы ведалі, сочаць бабы. Не горшыя яны за пагранічнікаў. Цяпер то і не кожны так проста ўедзе „ў пушчу".

— Калі і красьці німа ў нас чаго.

— Ага, бабкі-рыбкі, а ў мане дзьве курачкі, што асталісэ, раптом прапалі. Суседка кажэ, што ваны ее, бо і несуццэ ў ее. Гляджу: каб ні зілёные крыла, то рыхтык мае Рабка і Белка! А гэто С. так іх памалявала! А каб ні параляцелі за плот, то ім крыла пападрэзвала. У ее так усе куры зілёные ходзят, каб вадомо было, чые ваны ест.

Чулі, што знікаюць па вёсках каровы, пакінутыя на пашы. І прыходзіцца іх вадзіць з адлеглых вёсак па 3-4 кіламетры штодзень з лугоў, рана і ўвечары.

— У нас то можно было б і на ваўка ўсё скінуць. Але ад яго астануццэ хоць рожкі ды ножкі ад каровы чы авэчкі.

— Ты што пра такую жывіну! Нашаго Рэксіка ў белы дзень з дарогі падабралі! Пры дзецях! Затрымаласа „Скода", выскачыў чалавек, схапіў сабачку за спіну і гайда! — паехалі. Дзеці ў плач. Ні трэбо было пародзістаго сабачкі на вёсцы трымаць. А вон, хоць мястовы, такі добры брахун быў, пілнаваў гаспадарку. Тые гады можэ іх на шкуры ловят?

Дабро ўзяць можна хутка, калі яно кепска ляжыць, або і добра пастарацца, каб абхітрыць „простага" чалавека. У Нарваўскай, Бельскай і іншых гмінах раптам пачалі хадзіць па вёсках розныя „інкасэнты", „працаўнікі ЗУС", „грамадскай апекі", якія быццам бы шукаюць магчымасці, каб добрым людзям па закінутых вёсках „памагчы" ў іх цяжкім лёсе. Разведаўшы, што можна дзе ўзяць, яны дзейнічаюць або адразу, або вяртаюцца праз нейкі час. Людзі ў нас даверлівыя. Сумленныя, спачувальныя. Спадар А. з Г., паверыўшы выглядаючай на хворую жанчыне, што прасіла шклянку вады, каб запіць таблетку, у тую ж хвіліну страціў прытомнасць. Ачнуўшыся, убачыў хату перетрэсеную ў пошуках патайных схаванак. Зладзеі абдзерлі ўсё, шукаючы скарбаў. Ды што можна было знайсці ў пенсіянера, апроч тых грошай, якіх не выдаў на „аб'язную краму" — на хлеб, соль, малако, цукар?..

Людзі ўжо ведаюць, што старыя рэчы, якія неаднойчы выкідалі за стадолу або спальвалі, маюць сваю вартасць. Тое, што раней было ў іх са скарбаў народнай і рэлігійнай культуры, ужо паспелі раскрасці, раскупіць, выкленчыць розныя аматары таго мастацтва. Ганна Б. цяпер паказвае куфэрак, не такі і стары, кажа: „Можа ён мне і непатрэбны, але калі той пан, што прыехаў з Вацікам, так упіраўся, каб яго мець, то мусіць ён мець вялікую цану! Ну, то хай стаіць у мяне. Не такая я цяпер дурная!" Думаю, што цётка Ганна тую прыгожую скрыначку пэўна і не прадасць, бо і яна „можа мець такія фанабэрыі, як якісь варшаўскі пан". Але і так, ведаючы іх, ейныя ўнукі ўкінуць той куфэрак у печ, разам з усім, што з бабінага астанецца, калі не прададуць яго за бясцэнак камусьці разам з хатай. Такіх самотных хатак тут столькі, што выбірай, якую табе трэба. Нават дзверы ў некаторых не забіты накрыж, — заходзь, чалавеча, бяры, што хочаш.

**Міра Лукша**

*(Па просьбе размоўцаў, іхнія прозвішчы да ведама рэдактара.)*

# Позірк у мінулае

**4 мая**

1980 г. — памёр маршал Іосіф Броз Ціта, югаслаўскі дзяржаўны дзеяч. Нарадзіўся 25 мая 1892 г. у харвацкай сялянскай сям'і. Яго маці была славенкай, бацька — харватам. Пасля школы стаў на працу металургам і ў 18 гадоў уступіў у рады Сацыял-дэмакратычнай партыі. У 1913 г. быў прызваны ў аўстра-венгерскую армію, папаў на фронт I сусветнай вайны, быў ранены і апынуўся ў расейскім палоне. Пасля вайны вярнуўся ў Югаславію, дзе стаў арганізаваць камуністычны рух. У 1927 г. быў выбраны сакратаром прафсаюза металургаў Харватыі і скора арыштаваны за падрыўную дзейнасць. З турмы выйшаў у 1934 г. і адразу быў назначаны членам палітбюро кампартыі; тады прыняў свой партыйны псеўданім Ціта. У 1936—37 гг. быў у Маскве, а пасля вяртання ў Югаславію стаў генеральным сакратаром КПЮ. Калі ў ходзе II сусветнай вайны Германія і Італія занялі Югаславію, Ціта стаў арганізаваць партызанскі рух для барацьбы супраць нацыстаў, харвацкіх фашысцкіх усташаў, сербскіх нацыяналістычных чэтнікаў і другіх мілітарных груповак. Летам 1941 г., пасля нападзення Германіі на Савецкі Саюз, у Югаславіі партызанка Ціта ўзняла паўстанне. Немцы шмат разоў наступалі на паўстанцаў, аднак не маглі іх разбіць. У 1943 г. партызаны стварылі часовы ўрад, які ўзначаліў Ціта. Да канца вайны камуністычная партызанка вызваліла большасць тэрыторыі Югаславіі. 7 сакавіка 1945 г. камуністы ўстанавілі ўрад, які 2 красавіка прызналі тры вялікія дзяржавы, а ў лістападзе 1945 г. Ціта стаў прэзідэнтам. Ціта дайшоў да ўлады дзякуючы падтрымцы Сталіна, які вымагаў за тое падпарадкавання яму. Ціта супраціўіся гэтаму і ў 1948 г. дайшло да разрыву з СССР, а КПЮ была выключана з Камінтэрна. У 1961 г. Ціта, супольна з егіпецкім прэзідэнтам Насэрам і прэм'ерам Індыі Нэру заснавалі рух незаангажаваных дзяржаў, як альтэрнатыву для дамінацыі двух мілітарных блокаў. Кіраўніцтва Ціта, гэта для Югаславіі перыяд спакою, міжэтнічнай згоды і адноснага дабрабыту; усё гэта адышло разам з ім.

**10 мая**

1876 г. — нарадзіўся славенскі пісьменнік Іван Цанкар. Быў сынам беднага вясковага краўца. Дзякуючы запамогам і стыпендыям закончыў гімназію ў Любляне. У 1896 г. пачаў навуку ў Вене, аднак кінуў яе, цалкам прысвячаючыся публіцыстычнай і літаратурнай дзейнасці. Займаўся таксама палітыкай, праяўляючы сацыял-дэмакратычныя сімпатыі. На пачатку I сусветнай вайны быў арыштаваны, як палітычна ненадзейны, а пасля прызваны ў аўстрыйскую армію, з якой быў скора адпушчаны з увагі на дрэнны стан здароўя. Памёр у 42 гады. Іван Цанкар лічыцца адным з заснавальнікаў бунтарскага, дэкадэнцкага напрамку ў славенскай літаратуры, які характарызаваўся вострым сацыяльным зместам, крытыкай грамадскага парадку часоў станаўлення капіталізму. Яго літаратурнымі калегамі былі Драгацін Кетэ, Эсіп Мурн і Атон Жупанчыч. Першы з іх памёр маючы 23 гады, другі — 22 гады; абодва на сухоты і ў тым самым прытулку для бяздомных.

**(Ш)**

# Парнасік

## Міхась Панфілюк

Міхась Панфілюк —
Дзядзька і друг,
Беларус, якіх мала,
Любоў да роднага ў яго не прапала.
На пошце працаваў многа гадоў
І прыносіў шмат пладоў.
Выпісваў многа „Нівы",
Бо ён патрыёт і не лянівы.
Нараўка можа ім ганарыцца
І роднай мовы ніколі не баіцца,
А толькі любіць паважаць
І на кожным кроку праслаўляць
Так, як робіць Міхась-спадар,
Які мае выключны дар
Прапагандаваць роднае слова
Каб шырылася наша аднова.
Ён шчыры музейны ахвяравальнік,
Знае нядрэнна беларускія справы,
Носіць у сэрцы любоў і павагу
І родную беларускую развагу.
Быў пісьманосцам адданым,
Сумленным, не паганым.
Людзі яго паважалі, любілі,
Гонар, паклон яму білі.
У начальстве меў ён пашану
Бо не цярпеў крывадушнасці і абману.
Дырэктар Суліма яго высока цаніў
І паштавікоў усіх бараніў.
Панфілюк надалей у „курсе справы",
Ён пенсіянер і не шукае славы.
І як можа, так працуе на гонар
народа —
Такі яго менталітэт і парода.
Хоча, каб народ развіваўся
І ва ўсіх галінах праслаўляўся.
Міхась Панфілюк родам з нашых
старон,
Ён — яснасць многіх вакон;
Ён іх ачысціў ад пылу і цьмы,
Каб ясна свяціліся дні.
І надалей няхай яны свецяцца,
Нават калі на небе нешта зменіцца.
Жадаю яму і сям'і ясных дзён
І пасылаю шчыры паклон.

**Мікалай Панфілюк**

## Не забудзьце

Не забудзьце людзі
Ўсім прыпамінаць,
Што нашу дзяржаву
Мусім шанаваць.
Бо наша дзяржава,
Як у садочку кветкі,
Красуецца, прыгажэе
І зімой, і ўлетку.
Выйду рана з хаты,
Кругом падзіўлюся:
У лесе птушкі спяваюць,
Па лузе ходзіць бусел.
Такой другой дзяржавы
Нідзе няма ў свеце,
Яна ўсё прыгажэе
І зімой, і летам.
Гэты словы шчырыя
Нам трэба паўтараць,
Ды нашу дзяржаву
Усім шанаваць.

**Мікалай Лук'янюк**

## Навеянае „Апакаліпсісам"

О люд! Памятай аб гэтым,
што канчына тут.
Як труба затрубіць, упадуць звезды
з неба.
Вада будзе горка і забракне хлеба.
Саранча як коні будзе бушаваці
і людзей і ўсё стане зніштажаці.
Яшчэ і ад агню, і дыму, і серы
паміраці будуць і людзі, і зверы.
І іншых сем пляг будзе
(скулы, кроў, цяпло, цёмнасць, гром,
град, вады не будзе).
Але Хрыстос з яго пакліканымі,
выбранымі і вернымі
трыумфаваці будзе.

**Мар'я Пень**

## Быў такі фестываль

Учарашняя вестка ажывіла горад
і жыццё беларусаў на гэтай зямлі
сэрца разгарэлася ў вячэрні холад
у паэзію музыкі і мы адплылі.
Чаму так доўга трэба чакаць
на дзень дзявочы гэтай размовы
дваццаць гадоў дарастаць
не разумеючы сяброў сваіх і
простай беларускай мовы? —
Цяпер і бацькаўскі куток
развяжа мазоль дарожных паноў
я быў там, дзе фестываль
і знаю цяпер што будзе зноў
у наступным годзе.
Пачакайма.

**Уладзімір Саўчук**

# Вер — не вер

Шаноўны Астроне! Прысніўся мне надта арыгінальны сон. Здаецца, што ты яшчэ пра такое штосьці не пісаў. Быццам стаю я на драбіне. Мне трэба нешта ўверсе прыбіць. Але гэта вельмі высока, і, каб магчы туды ўзлезці, мне трэба яшчэ тры драбіны.

Увесь час мяне мучыць думка: як жа я прыб'ю? І вось я стаю на адной драбіне, а дзве яшчэ трымаю ў руках, каб узлезці вышэй. Вельмі нязручна! Падумала я: чаго я буду мучыцца? Узяла і скінула тыя дзве драбіны.

Цяпер стаю на адной і думаю: але я дурная! Унізе бачу рухомыя сходы, эскалатар без ступенек. Я стала і паехала ўверх.

Раптам ужо я стаю на прыпынку. Мушу кудысьці ехаць аўтобусам нумар дзевяць. Едзе аўтобус, поўны людзей. Ён абмінае мяне і не затрымліваецца. Чаму? Мне ж трэба ехаць! Гляджу, а людзі выставілі мой чамадан з аўтобуса. Аўтобус паехаў далей, а мяне не ўзялі.

Што абазначае гэты сон?

**Данка**

Данка! Сон твой даволі складаны. Паспрабую яго растлумачыць. Што абазначае драбіна ў сне? Калі ўвходзіш па ёй уверх — абазначае гэта поспех і дасягненне мэты. Калі сыходзіш уніз, апускаешся — траціш свой гонар, перажываеш розныя няўдачы.

Ты ж пастанавіла ўзысці наверх пры дапамозе аж некалькіх драбін, але было табе вельмі цяжка. Не дасягнуўшы мэты, ты скінула дзве драбіны, каб было лягчэй. Але ўсё ж такі жыццёвы спрыт дапаможа табе. Сама бачыш, ты знайшла эскалатар і ўехала на ім уверх, хаця і не быў ён такі зручны, бо не меў ступенек.

Што датычыць другой часткі сну, дык ён папярэджвае цябе, што планаванае табою падарожжа не здзейсніцца. Бачыш, аўтобус нават не затрымаўся, ды людзі выкінулі з яго твой чамадан, які ў іншым выпадку мог бы абазначаць шчаслівае падарожжа.

**Астрэн**

# Крыжаванка




**Гарызантальна:** 2. каштоўнасць, 4. іграе на скрыпцы, 6. цыліндрычная пасудзіна, 7. касмач, кудлач, 9. свінскі нос, 11. шлюбны абрад, 12. азбука, 13. машынна-трактарная станцыя, 15. пасудзіна для зачэрпвання вады, квасу, 17. справа, 18. мёртвая жанчына, 19. аўстралійскі мядзведзь.

**Вертыкальна:** 1. горы ў Еўропе, 2. найважнейшая мышца, 3. малады бык, 4. палітычна-рэлігійная 71-асабовая рада ў старажытнай Іудзеі, 5. сузор'е паўночнага паўшар'я, 6. яркае святло, 8. жаночае імя, 9. Станіслаў, польскі пісьменнік, 10. вымяраецца гадзінамі, 14. прэзідэнт Харватыі, 16. стрыжань люлькі, якім уцягваецца дым, 17. горад і рака на поўначы Беларусі. **(Ш)**

Сярод чытачоў, якія на працягу месяца прышлюць у рэдакцыю правільныя адказы, будуць разыграны кніжныя ўзнагароды.

**Адказ на крыжаванку № 11.**

**Гарызантальна:** паліто, сапрана, фасфат, рэклама, снарад, гарбуз, Ватыкан, казуля, нірвана, малако.

**Вертыкальна:** астрог, Эпікур, марабу, пафас, ласка, трава, натура, рэктар, Данбас, атара, Бруна, звяно.

Кніжную ўзнагароду высылаем **Лукашу Пацэвічу** з Беластока.



**„Niwa"**, ul. Zamenhofa 27, 15-959 Białystok, skr. poczt. 149, tel./fax 435-022.

Druk: „ORTHDRUK", Białystok, ul. Składowa 9.

**Tygodnik białoruski sponsorowany przez Ministerstwo Kultury i Sztuki.**

**Рэдагуе калектыў:**

Мікола Ваўранюк, Аляксандр Вярбіцкі, Ганна Кандрацюк-Свярубская, Алег Латышонак, Віталь Луба (сакратар рэдакцыі), Міраслава Лукша, Аляксандр Максімюк, Яўген Мірановіч (галоўны рэдактар), Яўгенія Палоцкая (машыністка), Галіна Рамашка (кіраўнік канцылярыі), Марыя Федарук (машыністка), Ада Чачуга.

**Выдае:** Праграмная рада тыднёвіка „Ніва". Старшыня Праграмнай рады: Валянцін Сельвясюк.

**Prenumerata.**

1. Termin wpłat na prenumeratę na III kwartał 1997 r. upływa 5 czerwca 1997 r. Wpłaty przyjmują urzędy pocztowe na terenie woj. białostockiego i oddziały „Ruch" na terenie całego kraju.

2. Cena prenumeraty na III kwartał wynosi 13 zł.

3. Cena prenumeraty z wysyłką za granicę jest większa o 100% i przyjmowana jest tylko na okresy kwartalne. Wpłaty przyjmuje RUCH S.A. Oddział Krajowej Dystrybucji Prasy, ul. Towarowa 28, 00-958 Warszawa.

Nr konta PBK XIII Oddział Warszawa 370044-16551-2700-1-06.

4. Prenumeratę można zamówić w redakcji. Cena 1 egz. wraz z wysyłką wynosi 1,90 zł, a kwartalnie — 24,70 zł. Wpłaty przyjmuje Rada Programowa Tygodnika „Niwa", Białystok, ul. Zamenhofa 27, nr konta PBK S.A., I Oddział Białystok, 11101154-207917-2700-1-65.

Tekstów nie zamówionych redakcja nie zwraca. Zastrzega sobie również prawo skracania i opracowania redakcyjnego tekstów nie zamówionych. Za treść ogłoszeń redakcja nie ponosi odpowiedzialności.

# Ніўка

## Пародыі

**Я**

*Я — цвет, адцвіўшы на галіне,*
*Я — яблык, выспелы увосень...*

*Алесь Барскі*

Я — сліва спелая ў садзе,
Я — промні сонца ў даляглядзе,
Я — пчолка на духмяным лузе,
Я — конь запрэжаны ў плузе.
Я — яблык, вішня і суніцы,
Я — вецер, той гуляка п'яны.
Табе, дзяўчына, і не сніцца,
Што я — твой кавалер духмяны.
Не бойся, ад дажджоў я чысты,
Я смачны, поўны і чырвоны,
Я сонечны і прамяністы,
Не той, што быў калісь, зялёны.
Я — вінаград, хурма і ківі,
Я — персік, абрыкос, халва...
І вельмі гэтым я шчаслівы,
Што я — паэт,
Я — галава!

Сяргей Чыгрын

## Гэта абазначае...

*Прыглядзеўшыся да здымка Славаміра Куліка ў „Ніве" № 15 ад 13 красавіка г.г. аўтару і рэдакцыі можна паставіць закід у крыптарэкламе гарэлкі „Absolwent". Толькі навошта тады валачы запэцканы ўнітаз у лес?*

*Усё ж такі сімволіка здымка даволі выразная. Аўтар, здаецца, накіроўвае яе ў адрас сёлетніх будучых абітурыентаў сярэдніх школ. Прадпасылка быццам такая: яшчэ не раз прыйдзецца вам „зрабіць штосьці" ад страху ва ўнітаз у час экзаменаў на атэстат сталасці, пакуль станеце выпускнікамі (absolwentami) сваіх школ.*

*А пасля матуры — гайда на ўлонне натуры!* **(як)**






*— Спадарыні і Спадары! Гавару вам яшчэ раз: „Жыве Беларусь!"*

## Сяброўка клуба дзінатуршчыкаў

Міра Лукша збіралася „ў тэрэн". Купіла новыя чаравікі, бо старыя зусім ужо стаптала па дарогах Беласточчыны. Колькі кіламетраў папатэпаеш, каб злавіць цікавую тэму, сустрэць цікавых людзей, каб не прапусціць нічога! А тыя новыя боты, хай іх нагла, быццам нумар які трэба, і моцныя, і прыгожыя, а **п'юць** у ступакі!

Нараілі добрыя цёткі наліць з вечара ў чаравікі дэнатурату, выпхаць іх паперай. Рэпарцёрка так і зрабіла. Раніцай, усё ж, яны далей **пілі**. Міра намачыла іх яшчэ больш сінюхай і рушыла ў дарогу. Праўда, боты памякчэлі, расхадзіліся. Здавалася, і дэнатурат выветрыўся на вясновым паветры.

Вяртаючыся аўтобусам, прыгрэтая сонцам, зморана журналістка „Нівы" крыху задрамала, апершыся на сваім чорным заплечнічку, нягледзячы на тое, што аўтобус трэсся і падскокваў на выбоістай дарозе і каменні.

— Ну, такая маладая, а як нажэрлася! — усхваляваўся дзядуля, што сядзеў насупраць. — Дзінатуршчыца!

Праўда, па ўсім аўтобусе нёсся ад яе густы перагар разагрэтай сінюхі.

**(лук)**

## „Даўціпы" Андрэя Гаўрылюка

На ўсхваляваным моры да капітана судна падыходзіць пасажырка:

— Ці караблі часта патанаюць падчас буры?

— Толькі адзін раз, а пасля ўжо назаўсёды астаюцца на дне.

* * *

Паліцыянт затрымоўвае „Сірэнку":

— Вы перавысілі дазволеную скорасць 90 км/гадз., — гаворыць вадзіцелю. — Плаціце штраф!

— Няўжо?! Ужо плачу! Толькі дайце мне пасведчанне гэтага цуда, бо інакш сябры не павераць.

* * *

Двух дзядуляў выбралася ў бардэль. Перад уваходам адзін з іх сумнявaецца:

— А што будзе, калі нас не прымуць?

— Я найбольш баюся, — кажа другі, — што будзе, калі нас туды прымуць...

* * *

— У тастаменце запісаў я ўсё сваёй жонцы, але з агаворкай, што зараз пасля маёй смерці яна паўторна выйдзе замуж.

— Чаму ж гэта так?

— Каб быў прынамсі адзін чалавек, які б шкадаваў, што я памёр.

* * *

— Пан доктар, устаю штодзённа разам з пеўнямі, працую як конь, маю воўчы апетыт, сплю як барсук, ды ўсёткі дрэнна сябе адчуваю.

— У такім выпадку прапаную вам звярнуцца да ветэрынара.

* * *

— Мамачка, як табе ўдалося адзвычаіць татку абгрызаць ногці?

— Вельмі проста: схавала яго пратэз.

* * *

— Быў у заапарку?

— Быў.

— А колькі гадоў?

* * *

— Чаму мэр горада загадаў паставіць перад сваім домам слуп з ліхтаром?

— Каб дачка мела блізка на працу.

* * *

Шчырая размова двух сяброў:

— Знайшоў ідэальную кабету, толькі вось яна разглядаецца за ідэальным мужчынам.

## Сардэчныя тайны

Даражэнькае Сэрцайка! Усё, здаецца, я запланаваў як след. Хату вычысціў як ніколі, памяняў пасцель, у вазу ўставіў свежую кветку. Купіў бутэльку салодкай „шэры" і сялёдачку на закуску. І нават старыя шкарпэткі адставіў у куток, прыдбаўшы сабе новыя.

Дзяўчына падабалася мне ўжо даўно. Прыгожая, халера. Думаў я, што на мяне яна не паляціць. А тут, бачыш, запрасіў яе і яна згадзілася. А што з тымі хлопцамі, што вечна цягаюцца за ёю? — мільгала момантамі назойлівая думка. А-а там, каб хацела яна гуляць з імі, дык не прыйшла б да мяне.

Я супакоіў сябе, упэўніўся, глянуўшы ў люстэрка, што выглядаю нічога сабе, яшчэ раз пырснуў пад пахамі адэкалонам і цярпліва чакаў.

Дзяўчына вельмі спазнілася. Я ўжо нават разамлеў і хацеў пераапранацца ў хатняе, старое, як тут пачуў званок у дзверы. Божачкі, гэта ж яна! — ледзь адарваўся я ад тэлевізара. Якраз канчаўся дэтэктыў, і я амаль не праваронію найбольш адказны момант: хто забіў.

Дзяўчына распранaлася, а я дагледаў у той час гэты добры фільм. Не была яна недалікатная: прысела на крэсла і чакала. Праўду кажучы, я не хваляваўся. Не думаў, што зараз яна знервуецца і ўцячэ. Калі ўжо прыйшла... Крыху мяне непакоіла, што быў гэта першы раз: яшчэ яна не ведала маіх валёраў. Во, калі б арыентавалася, дык магла б чакаць доўга! Адна прыйшла калісь, а ў мяне другая дзяўчына. Думаеш, махнула хвастом — і ўжо яе няма? Што ты! Сядзела і чакала (я ёй зрабіў гарбатку), пакуль мы ў спальні не закончылі распачатую справу. А і тая першая пасля ўсяго гжэчненька выйшла. З другой мы забаўляліся аж да раніцы.

Ну, але што ж ты зробіш, калі з гэтай, сённяшняй дзяўчынай мы яшчэ не былі... Фільм, аднак, хуценька скончыўся, быццам нехта ведаў, што ў мяне сёння ёсць яшчэ справы, і я пачаў частаваць сваю госцю. Была яна такая скромная, што аж у сэрцы зашчымела. Я наліў крыху „шэры", вішнёўкі (бадай, ты ведаеш), кажу: закусвай селядцом! А яна: дзякую, я не галодная, толькі што паабедала... Ну, і дурань жа я, чаго ж было па горадзе бегаць, закуску шукаючы...

Сеў я каля той сялёдачкі і ўплёў усю: трывалей будзе! Пад „шэры" смакавала надзвычайна. Яна не хоча? — няхай сядзіць. Нап'еццa — лягчэйшая будзе!

Я старанна выпаласкаў рот ад цыбулі і прыступіў да дзела. А гэта што? Я — да яе, яна — ад мяне! Во дурніца, не ведае, што губляе. Але я — чалавек цярплівы. Няхай раскруціцца. Настаўвіў кампактную пласцінку, апошні крык з „дыска-рэляксу". Слухаю — не адарвуся, а яна мне: „Няма ў цябе іншай музыкі?"

А хто яна такая, што я яшчэ для яе музыку буду падбіраць?! Іншым — што маё — усё падабаецца. Але госць ёсць госць, і я яго шаную. Наставіў нешта іншае. Слухаем, я — да яе, яна — ад мяне.

Так сабе пасядзела, паслухала. А пасля, думаю, дай я пакажу ёй маю хату. Ідзем у другі пакой, туды, дзе спальня, а яна — зырк на чысценькую пасцельку. Ну, выснаваў я: мая! Нездарма пасцель памяняў. А яна ды і кажа: „Дзе ты такую клетачку купіў?!" Мне ў такой пасцелі найлепш спіцца.

Сэрца маё гатова было вырвацца з грудзей. Во дзе трапіў! А то: гэтага не хачу, таго не п'ю. Дурань я, дурань! Ад пасцелі трэба было пачынаць, а не ў культурнага бавіцца. О-о! Я ж адразу ведаў, што гэта дзяўчына канкрэтная, — і ў думках я ўжо аднатаваў яе імя ў сваім блакноце перамог.

У маім жываце пачало падазрона бурчаць і я баяўся, каб не сканфузіцца дарэшты. Вядома, калі чалавек жыве адзін, то саромецца не мае каго і нічога ў сабе не трымае. Але ж госця...

Кажу, што мне трэба памыць рукі, і бягу ў туалет. Давялося трохі пасядзець, але пасля ізноў моцна спырснуўся адэкалонам. Калі выйшаў у пакой, дзяўчыны ўжо не было.

Усё ж такі аказалася подлай.

**Андрэй**

Андрэйка! Не хвалюйся! Пэўна, былі ў яе яшчэ нейкія справы.

**Сэрцайка**